


# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 41 (354) 24 — 30 кастрычніка 1998 г. КОШТ 4500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •

Наступны нумар нашай газеты выйдзе 7 лістапада.

**Беларуская перыёдыка рыхтуецца да значнай падзеі: з 28 кастрычніка па 2 лістапада 1998 года ў Маскве на тэрыторыі Усерасійскага выставачнага цэнтра будзе праводзіцца выстава "Прэса-99". У ёй прымуць удзел выданні з 50 краін свету, сярод якіх — Злучаныя Штаты Амерыкі, Францыя, Германія, Вялікабрытанія, краіны СНД і інш. Як ужо паведамляла "Культура", Рэспубліка Беларусь на выставе будзе прадстаўлена 17-цю дзяржаўнымі і трыма недзяржаўнымі выданнямі і выдавецкімі групамі. Напярэдадні гэтай падзеі наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Міхаілам ПАДГАЙНЫМ.**

**— Міхаіл Васілевіч, колькі словаў пра тое, як адбывалася падрыхтоўка да выставы?**

— На выставе "Прэса-99" мае магчымасць экспанавацца любое выданне альбо выдавецкая група. Але не ў кожнага ёсць сродкі. Дарэчы, напачатку было пададзена каля 30 заяў, аднак зараз засталося толькі дваццаць. Нават не ўсе буйныя выданні могуць самастойна выстаўляцца. Таму не дзіўна, што некаторыя выдавецкія групы прадстаўляюць інтарэсы некалькіх газет. "Белсаюздрук", напрыклад, прэзентуе на выставе газету "Прессбол", "Белорусская деловая газета" — газету "Имя" (акрамя сябе) і г.д. Фактычна на маскоўскай выставе будзе прадстаўлена большасць цэнтральных перыядычных выданняў Беларусі.

Што тычыцца арганізацыйных пытанняў, дык мы дамовіліся з расіянамі і атрымалі выдатнае месца ў цэнтры экспазіцыі плошчай 24 квадратныя метры, дзе і будзе размешчаны наш стэнд.

**— Якога з нашых экспанентаў можна лічыць лідэрам?**

— Калі лічыць па накладзе, дык з дзяржаўных выданняў гэта, зразумела, будзе "Советская Белоруссия", з недзяржаўных я б у першую чаргу назваў "Свободные новости", "Белорусскую деловую газету", часопіс "Несси"... Словам тыя выданні, што добра вядомы чытачам і добра раскупляюцца.

**— На выставе будзе праходзіць прэс-канферэнцыя "Беларуская прэса. Перспектывы развіцця". Дык якія перспектывы ў беларускай прэсы, на вашу думку?**

— Напэўна, на сённяшні дзень мы прыйшлі да аптымальнага ўзроўню насычэння рынку. Гэта значыць: калі вы падыйдзеце да кіёска "Саюздруку", то знойдзеце ўвесь спектр думак па ўсіх галінах: навуцы, палітыцы, эканоміцы, культуры. Рынак запоўнены, і колькасць выданняў — ад 980 да 1120 — практычна не зьмяняецца вось ужо паўтара гады.

Хутчэй за ўсё на гэтай прэс-канферэнцыі ўзнікне пытанне аб насычэнні беларускага рынку перыядычнымі выданнямі замежнай вытворчасці. Дарэчы, у Дзяржкамдруку Беларусі ўжо адбывалася размова аб стварэнні спецыялізаваных кіёскаў, у якіх можна было б набыць такія выданні, як "Таймс", "Вашынгтон Пост", нямецкія газеты, польскія, прыбалтыйскія... Калі існуе патрэба ў такой прэсе — мы павінны задаволіць гэты попыт.

**— А колькі беларускіх газет і часопісаў могуць выпісаць расіяне?**

— Каля трыццаці. Гэта ўсё тыя ж цэнтральныя выданні — дзяржаўныя і недзяржаўныя. Дарэчы, у нашай падпісцы найменняў расійскай перыёдыкі каля 130.

У гэтым месяцы мы збярэм сумесную калегію па выпрацоўцы агульных праграм у галіне інфармацыі і друку. На парадку дня — пытанні па падпісцы, па абмене сігнальнымі экземплярамі ўсіх выданняў Расіі і, адпаведна, Беларусі. Мы свае абавязкі выканалі, а Расійская кніжная палата — пакуль што не. У нашых жа далейшых планах — пераклад на беларускую мову кніг з серыі "Школьная библиотека".

Спадзяемся падчас выставы "Прэса-99" на ўвагу і поспех.

Гутарыў Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ









У калажы выкарыстаны фрагмент плаката Hollywood Pictures Company.

Калаж Наталлі ОВАД

# РАЗАМ З ПЕРЫЁДЫКАЙ СВЕТУ

№ 41 24 — 30 кастрычніка 1998 г.



# ПАДТРЫМАЦЬ ІНТЭЛЕКТ І ТАЛЕНТ

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***1. Зацвердзіць рашэнне савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва ад 26 чэрвеня 1998 г. (пратакол № 2) аб выдаткаванні сродкаў на выплату грантаў і ганарараў за стварэнне твораў культуры і мастацтва, набыццё інструментаў і матэрыяльных сродкаў для здзяйснення творчай дзейнасці, забеспячэння ўдзелу творчых калектываў і асобных выканаўцаў у міжнародных канцэртах, фестывалях, арганізацыю стажыровак дзеячаў культуры і мастацтва ў рэспубліцы і за яе межамі, аказанне аднаразовай матэрыяльнай дапамогі.***

***2. Мінкультуры выплаціць са сродкаў фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва 30740 млн. рублёў на фінансаванне выдаткаў у адпаведнасці з рашэннем, пазначаным у пункце 1 дадзенага распараджэння.***

***3. Вызваліць ад абкладання падаходным падаткам сумы, якія выплачваюцца грамадзянам у адпаведнасці з зацверджаным гэтым распараджэннем рашэннем савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.***

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА**

**Рашэнне**

савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва аб выдаткаванні сродкаў на выплату грантаў і ганарараў за стварэнне твораў культуры і мастацтва, набыццё інструментаў і матэрыяльных сродкаў для здзяйснення творчай дзейнасці, забеспячэнне ўдзелу творчых калектываў і асобных выканаўцаў у міжнародных канцэртах, фестывалях, арганізацыю стажыровак дзеячаў культуры і мастацтва ў рэспубліцы і за яе межамі, аказанне аднаразовай матэрыяльнай дапамогі.

26 чэрвеня 1998 г.
**пратакол № 2**
*г.Мінск*

1. Выдзеліць гранты:

Беларускаму тэатру юнага гледача на пастаноўку п'есы А.Дударава "Палачанка" — у памеры 1100 млн. рублёў;

Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь на аднаўленне найрэдкіх твораў беларускага мастацтва (рэстаўрацыю пятнаццаці старажытных абразоў) — у памеры 1960 млн. рублёў;

Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі на набыццё калекцыі найрэдкіх рукапісных і друкаваных выданняў XVII — XIX стст. — у памеры 2 млрд. рублёў;

Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь — у памеры 2500 млн. рублёў, Музею сучаснага мастацтва — 1500 млн. рублёў, Віцебскаму абласному мастацкаму музею — 1 млрд. рублёў, Магілёўскаму абласному мастацкаму музею — 1 млрд. рублёў, Гродзенскаму гісторыка-археалагічнаму музею — 1 млрд. рублёў на набыццё твораў выяўленчага мастацтва беларускіх мастакоў.

Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь для заключэння дагавораў дзяржаўнай замовы з беларускімі драматургамі на стварэнне драматычнага цыкла "Гістарычная хроніка Беларусі XII — XIX стст."— у памеры 480 млн.рублёў.

2. Выплаціць ганарары:

выдавецтву "Мастацкая літаратура" для беларускіх пісьменнікаў — у памеры 2500 млн.рублёў;

народнаму артысту СССР Елізар'еву В.М. за стварэнне лібрэта і харэаграфіі балетнай дылогіі І.Стравінскага "Вясна свяшчэнная" і "Жар-птушка" — у памеры 250 млн. рублёў;

народнаму артысту Расіі Праватораву Г.П. за музычнае кіраўніцтва ў балеце І.Стравінскага "Вясна свяшчэнная" — у памеры 25 млн. рублёў; студэнтам Беларускага універсітэта культуры Красько Р.І. і Цяцёркінай В.В. за перамогу ў чэмпіянаце свету па спартыўных танцах на інвалідных калясках — у памеры 60 млн. рублёў.

3. Выдзеліць сродкі:

Беларускай акадэміі мастацтваў на набыццё светла- і гукаапаратуры для глядзельнай залы студэнцкага тэатра — у памеры 376 млн.рублёў;

Беларускай акадэміі музыкі на набыццё духавых інструментаў для аркестраў "Маладая Беларусь" і "Фанфары Беларусі" — у памеры 8700 млн. рублёў;

Беларускаму дзяржаўнаму харэаграфічнаму ансамблю "Харошкі" на набыццё музычных інструментаў і апаратуры для дзіцячай студыі-школы і аркестра — у памеры 500 млн. рублёў;

Беларускаму універсітэту культуры на набыццё інструментаў для падрыхтоўкі эстрадных выканаўцаў — у памеры 860 млн. рублёў;

Дзяржаўнаму акадэмічнаму рускаму драматычнаму тэатру Рэспублікі Беларусь імя М.Горкага на набыццё светла- і гукатэхнічнага абсталявання для "Тэатра пад купаламі" — у памеры 617 млн. рублёў;

Беларускаму інстытуту праблем культуры на выданне фундаментальных навукова-метадычных і рэпертуарных работ: "Анталогія народнай творчасці Магілёўшчыны", "Беларускі народна-сцэнічны танец", рэпертуарнага зборніка аднаактовых п'ес Г.Марчука, зборніка песень І.Лучанка — у памеры 550 млн. рублёў;

Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на выданне кнігі Гарбчанка Т.Я. пра жыццё і творчасць народнай артысткі Беларусі З.І.Канапелька — у памеры 80 млн. рублёў і кнігі Ярмолінскай В.М. "Брава, Віктар", прысвечанай творчасці народнага артыста СССР В.П.Тарасава — у памеры 158 млн. рублёў;

Выдавецтву "Мастацкая літаратура" на выданне зборніка выбраных п'ес Паповай А.Г. — у памеры 339 млн.рублёў;

на забеспячэнне ўдзелу Акадэмічнага хору моладзі і студэнтаў "Грайна" ў XXXV Міжнародным харавым конкурсе ў г.Шпіталь (Аўстрыя) — у памеры 150 млн. рублёў;

на забеспячэнне ўдзелу Полацкага камернага хору ў 54-м Міжнародным харавым фестывалі ў Вялікабрытаніі — у памеры 150 млн. рублёў;

на забеспячэнне ўдзелу студэнта Беларускай акадэміі музыкі Паначэўнага А.В. і прафесара Гільдзюка Ю.М. у Міжнародным конкурсе і фестывалі піяністаў імя В.Капелы (універсітэт штата Мерыленд, ЗША) — у памеры 100 млн. рублёў;

на арганізацыю стажыровак маладых дырыжораў і рэжысёраў у вядучых майстроў сцэны, у кансерваторыях, драматычных і оперных тэатрах Масквы, Санкт-Пецярбурга, а таксама ў замежных краінах — у памеры 1850 млн. рублёў;

на перавод газеты "Культура" на каляровае афармленне і ўвядзенне новых тэматычных укладышаў, у тым ліку для шырокага кола моладзі, — у памеры 335 млн. рублёў;

на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы Музея сучаснай беларускай скульптуры імя А.Бембеля — у памеры 350 млн. рублёў;

на стварэнне буклета Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь (да 60-годдзя з дня ўтварэння) — у памеры 200 млн. рублёў.

4. Аказаць аднаразовую матэрыяльную дапамогу народнай артыстцы Беларусі Акружной С.А. у памеры 50 млн.рублёў.

**Старшыня савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва М.А.КАЗІНЕЦ**

## ПРАТАКОЛ 12.10.1998 № 10/332 ДАРУЧЭННЯЎ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЛУКАШЭНКІ А.Р., ДАДЗЕНЫХ НА СУСТРЭЧЫ З ЧЛЕНАМІ РАДЫ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ 5 ЖНІЎНЯ 1998 Г.

***У мэтах далейшага развіцця нацыянальнай літаратуры і аказання дзяржаўнай падтрымкі творчай працы беларускіх пісьменнікаў даручыць:***

1. Дзяржаўнаму камітэту па друку сумесна з Міністэрствам культуры, Саюзам беларускіх пісьменнікаў распрацаваць і ўнесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 снежня 1998 г. комплексную праграму па стварэнні ўсіх неабходных умоў для захавання і развіцця нацыянальнага кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання.

2. Аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму сумесна з Міністэрствам культуры, Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам фінансаў прыняць меры па больш поўнаму камплектаванню дзяржаўных і школьных бібліятэк як кнігамі беларускіх пісьменнікаў, так і перыядычнымі беларускамоўнымі выданнямі, якія прапагандуюць агульнанацыянальную палітыку і патрабаванні нацыянальна-дзяржаўнага курсу, прадугледжваючы выдзяленне мэтавых сродкаў на камплектаванне бібліятэк.

3. Саюзу беларускіх пісьменнікаў разам з Міністэрствам культуры, Дзяржаўным камітэтам па друку, творчымі саюзамі рэспублікі да 1 студзеня 1999 г. распрацаваць праграму правядзення рэспубліканскіх грамадска значных літаратурных мерапрыемстваў і свят, уключаючы семінары маладых літаратараў, дні нараджэння выдатных беларускіх песняроў Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча і іншых, з выдзяленнем на гэтыя мэты дадатковых сродкаў з дзяржаўнага бюджэту.

4. Мінскаму гарвыканкаму ў 1999 годзе прыняць рашэнне аб прысваенні адной з вуліц г.Мінска імя Максіма Танка.

5. Міністэрству адукацыі пры распрацоўцы школьных праграм па беларускай літаратуры штогод абмяркоўваць з Радай Саюза беларускіх пісьменнікаў школьныя праграмы і дапаўняць іх творамі сучасных беларускіх пісьменнікаў.

6. Дзяржаўнаму камітэту па друку, Міністэрству культуры разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Камітэтам па аўтарскіх і сумежных правах пры Міністэрстве юстыцыі па ўзгадненні з Міністэрствам фінансаў разгледзець пытанне аб павелічэнні мінімальных ставак аўтарскага ўзнагароджання за стварэнне і выданне твораў літаратуры і мастацтва і да 1 студзеня 1999 г. унесці прапановы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

7. Дзяржаўнаму камітэту па друку:

выдаць у 1999 годзе двухтомнік выбраных твораў народнага паэта Беларусі Максіма Танка;

да 1 студзеня 1999 г. разгледзець пытанне аб адлічэннях Беларускаму літаратурнаму фонду ад аўтарскага ганарару за стварэнне і выданне твораў літаратуры і мастацтва для аказання матэрыяльнай падтрымкі літаратараў, медыцынскай дапамогі, дапамогі па старасці і пры неабходнасці ўнесці прапановы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

ва ўстаноўленым парадку выдаць ліцэнзію на выдавецкую дзейнасць Беларускаму літаратурнаму фонду і забяспечыць яго дзяржзаказамі на выданне асобных падручнікаў і хрэстаматый па беларускай літаратуры.

8. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1998 годзе вырашыць пытанне аб выдзяленні 9,3 млрд.рублёў на капітальны рамонт і ўзнаўленне круглагадовай дзейнасці пісьменніцкага Дома творчасці "Іслач".

9. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь забяспечыць размяшчэнне структурных падраздзяленняў Саюза беларускіх пісьменнікаў у будынку па вул.Фрунзе,5, пад поўную патрэбу з пагашэннем арэнды і камунальных паслуг ва ўстаноўленым парадку за кошт бюджэтных сродкаў.

10. Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку, Саюзам беларускіх пісьменнікаў распрацаваць і зацвердзіць план мерапрыемстваў па прапагандзе лепшых твораў нацыянальнай літаратуры і іх аўтараў як у рэспубліцы, так і за яе межамі.

11. Кантроль за выкананнем даручэнняў гэтага пратакола ўскласці на Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь (Замяталін У.П.) і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Пашкевіч І.І.).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА**

# ПАЛІТЫКА ДЫПЛАМАТЫІ

У мінулым годзе з мэтай падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі нацыянальных дзяржаўных кадраў у Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь упершыню адбыўся набор слухачоў па спецыялізацыі "Знешняя палітыка і дыпламатыя". Для арганізацыі вучэбнага працэсу была створана адпаведная кафедра, якую ўзначаліў былы дыпламат, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Віталь Смірноў. Дыпламатыя — справа вельмі тонкая і надзвычай адказная. Не сакрэт, што прафесійны дыпламат павінен быць высокаадукаваным чалавекам, валодаць самымі рознабаковымі ведамі. Таму нездарма ў працэсе навучання нароўні з эканамічнымі, дзяржаўна-прававымі дысцыплінамі вялікая ўвага надаецца і гуманітарным. Як гэтае пытанне вырашаецца на новастворанай кафедры?

— З цягам часу мы ўпэўніліся, — кажа намеснік загадчыка кафедры Вера Пазняк, — што такіх дысцыплін, як "Сусветная і нацыянальная культура", "Гісторыя дыпламатыі", "Этыка і псіхалогія дыпламатычных зносін", "Сусветная рэлігія" — недастаткова, і разам са слухачамі прыйшлі да высновы, што ў дадатак неабходна стварыць спецыяльную факультатыўную праграму. Умоўна мы яе называем "Культура і дыпламатыя". Пачалі з таго, што запрасілі да сябе музыказнаўцу Вольгу Савіцкую — вельмі цікавага, захопленага сваёй справай чалавека. Праслухалі шэраг яе лекцый, разам наведвалі філарманічныя канцэрты, тэатры. Але гэтага, безумоўна, мала. Наша навучанне разлічана на два з паловай гады, часу амаль няма. Таму зараз мы шукаем кантакты з дзеячамі літаратуры і мастацтва, якія б змаглі за такі кароткі тэрмін панарамна пазнаёміць нас з асноўнымі творчымі здабыткамі, расказаць у жывой форме, чым жыве сёння наша культура. Для нас вельмі важна ведаць, так бы мовіць, яе ў твар, а не толькі па падручніках ды сродках масавай інфармацыі.

Справу аблягчае тое, што нашы слухачы (а гэта дзве групы па 20 чалавек стацыянарнага і вочна-завочнага навучання) —людзі з вышэйшай адукацыяй, якія прыйшлі да нас з міністэрстваў і ведамстваў, неблагі багаж ведаў яны ўжо маюць.

**— Вера Паўлаўна, у якой меры акрэслены далейшыя крокі па рэалізацыі вашай факультатыўнай праграмы?**

— Па-першае, спадзяемся на дапамогу з боку калектыву вашай рэдакцыі. Нашы слухачы вельмі актыўна чытаюць "Культуру", гэта, можна сказаць, наша настольная газета. Таксама плануем цесна супрацоўнічаць з рэдакцыяй культурных праграм тэлебачання. І, натуральна, вялікую падтрымку нам аказвае Міністэрства культуры.

**— Поспехаў вам.**

**А.Ф.**

# НАШЫЯ СУАЙЧЫННІКІ Ў БЛІЗКІМ ЗАМЕЖЖЫ

**20 кастрычніка да Дня Рэспублікі Казахстан у Нацыянальным прэс-цэнтры была праведзена прэс-канферэнцыя з удзелам пасла Казахстана ў Рэспубліцы Беларусь пана Алесіна.**

**Казахстан — краіна, якая займае 9-е месца ў свеце па памеры сваёй тэрыторыі. Яна з'яўляецца адным з буйных здабытчыкаў нафты і газу. Можна доўга пералічваць, чым багатая гэта краіна, але лепш, напэўна, будзе сказаць: са 110 элементаў табліцы Мендзялеева ў нетрах Казахстана выяўлена 99, разведана 70 і выкарыстоўваецца больш за 60.**

**Рэспубліка Казахстан мае новую сталіцу — Астану (Акмалу). Раней цэнтр краіны месціўся ў горадзе Алматы, але ў лістападзе 1994 года парламент падтрымаў прапанову прэзідэнта краіны Нурсултана Назарбаева аб пераводзе сталіцы. У адпаведнасці з Указам прэзідэнта з 10 снежня 1997 года сталіцай Рэспублікі Казахстан быў аб'яўлены горад Астана. 10 чэрвеня 1998 года прайшла афіцыйная прэзентацыя новай сталіцы.**

**Як і ў большасці краін СНД, у Казахстане пражывае вялікая колькасць нацыянальнасцей. Сярод іх каля 200 тысяч беларусаў. У горадзе Алматы з 1992 года дзейнічае культурны цэнтр "Беларусь", у аснове дзейнасці якога ляжыць адраджэнне беларускіх традыцый, звычаяў, захаванне роднай мовы. У ліпені 1997 года гэты цэнтр шырока святкаваў 115-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Акрамя таго, у Заходне-Казахстанскай вобласці адкрыты клас з вывучэннем беларускай мовы як роднай, а таксама працуе беларуская нядзельная школа. На Какшэтаўскім абласным радыё вывучэнню беларускай мовы адведзены спецыяльны час.**

**У рамках культурнага супрацоўніцтва 23 кастрычніка ў Мінску адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі М.Аўэзава — на вуліцы, што носіць імя гэтага казахскага пісьменніка.**

**К.В.**

# ДЛЯ МАЛАДЫХ І НЕЖАНАТЫХ

***У Мінску па вуліцы Бялінскага, 21 стаіць шэра-сіні пяціпавярховы дом. Гэта інтэрнат Белдзяржфілармоніі. Зрэшты, кантынгент яго насельнікаў значна шырэйшы. Тут жывуць самыя розныя людзі, якія пасля заканчэння навучальных устаноў засталіся ў сталіцы і працуюць у галіне культуры. Вось, бадай, і ўся інфармацыя, якой валодаў карэспандэнт, кіруючыся па згаданым адрасе. Але не ў пошуках прытулку, а з мэтай на свае вочы ўбачыць гэтую жыллёва-культурную ўстанову і даведацца, як ужываюцца пад адным дахам такія непрадказальныя ў сваіх паводзінах творчыя асобы.***

Ніякай шыльдачкі ля ўваходу, якая б сведчыла аб спецыфіцы дадзенага будынка, не было. Гэтая дробязь мяне прыемна ўразіла: навошта пастаянна нагадваць людзям, што яны жывуць у інтэрнаце? Але пераступіўшы парог, я быў вернуты на грэшную зямлю строгім "міліцэйскім" позіркам бабулькі-вахцёркі і патрабаваннем падрабязна абгрунтаваць мэту майго візіту. Чамусьці ўспомнілася мытня. Невядома, колькі б часу доўжылася наша "сардэчная" гутарка, калі б неўзабаве ля вахты не з'явіўся сам загадчык інтэрнату Мікалай Васільеў.

Знаёмства з будынкам Мікалай Іванавіч прапанаваў мне пачаць з наведвання пятага паверха, які зараз з'яўляецца эпіцэнтрам капітальнага рамонту. Патрэба ў апошнім наспела даўно: дах у многіх месцах працякаў, душавыя і прыбіральні мелі ледзь не карцаравы выгляд, інтэр'ер кухняў яўна не садзейнічаў апетыту... За дваццаць пяць гадоў існавання будынка тут праводзіліся толькі касметычныя работы, ды сяк-так была заменена каналізацыя. Хто ведае, колькі яшчэ часу ў жыллёва-камунальнай прасторы інтэрната лунаў бы прывідны тэзіс: "Паляпшэнне жыллёвых умоў — справа рук саміх жыхароў", калі б год таму абсалютна нечакана для ўсіх сюды не завітаў міністр культуры А.Сасноўскі. Аднак распачаты адразу пасля яго наведвання рамонт будынка з цягам часу прыпыніўся з розных і такіх родных прычын. Галоўная з іх — гэта пошук і набыццё будматэрыялаў. Як вядома, купіць іх сёння можна толькі за наяўныя грошы. А дзе іх узяць, гэтыя наяўныя? Вось і даводзіцца "пакруціцца" загадчыку інтэрната разам з намеснікам дырэктара філармоніі Юрасём Навумовічам, каб набыць тую ж замазку па "бязнале". І ўсё больш непакоіць пытанне: ці хопіць увогуле сіл і сродкаў у Міністэрства культуры, каб давесці да канца распачаты рамонт? Не кажучы ўжо пра рэканструкцыю фасада, знешніх сцен будынка і стварэнне пад'язной пляцоўкі, аб якой чамусьці не паклапаціліся архітэктары-праекціроўшчыкі.

У сувязі з рамонтам вольных месцаў зараз у інтэрнаце няма. Але, як запэўніў М.Васільеў, праблем з засяленнем маладых спецыялістаў ніколі не ўзнікала. Пры ўмове, што яны яшчэ не паспелі займець сем'і. А ўжо ў сценах інтэрната браць шлюб нікому не забараняецца, як і гадаваць дзяцей. На сённяшні дзень тут пражывае 21 сям'я і восем адзінокіх мацярок, гадуюцца трыццаць тры дзіцяці. Лічацца ў спісах жыхароў і пенсіянеры, і беспрацоўныя, якія не плоцяць за пражыванне ўжо па некалькі месяцаў, хаця сума не такая і вялікая — 250 тысяч рублёў.

Словам, кантынгент інтэрната яскрава адлюстроўвае нашу "культурную" рэчаіснасць. Канешне, амаль усе жыхары стаяць на чарзе на кватэру. Але гэта — як гульня ў рулетку: камусьці пашчасціць, іншы да старасці будзе туліцца ў сваім інтэрнацкім пакойчыку. Праўда, як заўважыў Ю.Навумовіч, днямі Міністэрствам культуры прынята Палажэнне аб будаўніцтве кааператыўных кватэр і выдачы з гэтай мэтай работнікам культуры льготных крэдытаў. Вядома, у першую чаргу крэдыты будуць выдавацца тым, хто жыве ў інтэрнаце. Што з гэтага атрымаецца, пажывем — пабачым.

Асобнай гутаркі, на думку М.Васільева, заслугоўвае інтэрнацкая прапіска. Ён упэўнены, што адпаведнае заканадаўства ў адносінах да ведамасных інтэрнатаў неабходна тэрмінова перагледзець. "Як вядома, студэнт атрымлівае ў інтэрнаце часовую прапіску — на перыяд яго навучання, — кажа ён. — У нас жа — прапіска пастаянная. Раз і назаўжды. І што атрымліваецца? Малады чалавек размеркаваўся, дзяржава дала яму магчымасць жыць у інтэрнаце, ён некалькі месяцаў тут папрацаваў і — раптам з'ехаў за мяжу. На сённяшні дзень 10 чалавек, якія прапісаны ў нас, знаходзяцца ў Францыі, Германіі, Італіі, іншых краінах. Яны "гастралююць" там па некалькі гадоў, некаторыя наогул адтуль не вяртаюцца. Выпісаць іх мы не маем права, неяк звязацца з імі — немагчыма. Пытанне: навошта пустуюць іхнія пакоі?

А вось іншыя прыклады, — мой суразмоўца выцягнуў са стала стос пашпартоў: "Гэтыя людзі, як правіла, былі звольнены з працы за прагулы і п'янства. Не з'яўляюцца ў інтэрнаце ўжо па тры, а то і па пяць гадоў. Дзе яны зараз — ніхто не ведае, нават іх сваякі. Навошта нам такія пастаяльцы?

Самае цікавае, што ў Палажэнні аб інтэрнаце пазначана, што, калі чалавек звальняецца з працы ў сістэме культуры, ён павінен пакінуць і інтэрнат. А на справе, аказваецца, пытанне гэтае можа быць вырашана толькі праз суд".

Інтэрнат — гэта вялікая камунальная кватэра. Тут нельга жыць, як хочацца, і не лічыцца са сваімі суседзямі. А тым больш — з камендантам. Канешне, у інтэрнаце Белдзяржфілармоніі, як і ў іншых падобных установах, не абыходзіцца без розных інцыдэнтаў. Але ўсе яны, па словах М.Васільева, заканчваюцца без асаблівага адцення трагічнасці. Прынамсі, за апошнія гады міліцыю ні разу не выклікалі. А вось "01" зусім нядаўна ледзь не давялося набраць: адзін жыхар, "пад мухай", заснуў у сваім пакоі з цыгарэтай у руцэ. Задыміўся матрац, балазе, неўзабаве яго патушылі суседзі. А магло быць і горш... Што тычыцца нядаўняй нашумелай гісторыі, калі, як пісала адна незалежная газета, у інтэрнаце знайшлі нежывое немаўля, Мікалай Іванавіч патлумачыў, што сапраўды сёлета 8 сакавіка (якое страшнае супадзенне!) быў знойдзены гэты жудасны пакунак, але не ў самім будынку, а ў адным са смеццевых кантэйнераў, якія належалі інтэрнату. Жыхары інтэрната не маюць да гэтага інцыдэнта ніякага дачынення. Дарэчы, гэтае злачынства, дадаў М.Васільеў, не раскрыта і дасюль.

Дык якія ж адносіны пануюць паміж жыхарамі інтэрната? Любоў Пятрова, якая працуе ў музычным каледжы і адна выхоўвае двухгадовае дзіця, лічыць, што ёй вельмі пашчасціла з суседзямі. "Мы тут усе адзін аднаго ведаем, і праблемы, якія ўзнікаюць, імкнемся вырашаць разам. А неяк уладкаваць сваё асабістае жыццё, зрабіць свой пакой прыгожым і ўтульным — гэта ўжо індывідуальная справа кожнага". Задаволены сваімі суседзямі і музыкант Зміцер Кавалёў, які працуе ў аркестры М.Фінберга. "За сваё жыццё я багата пажыў па інтэрнатах, — кажа ён. — І ў мяне ёсць з чым параўноўваць. Канешне, гэта не тое, што інтэрнат кансерваторыі, але і тут жыць нябла-га. Адно шкада, што ў пакоі няма нават умывальніка. Што тычыцца "камендацкай гадзіны", калі ў 23.00 усе госці павінны пакінуць памяшканне, дык з дзяжурнай заўсёды можна дамовіцца, каб наведнікі крыху затрымаліся. Калі гэта, канешне, нікога не будзе непакоіць".

І ўсё-такі ў інтэрнаце даволі строгая прапускная сістэма. Усе наведнікі не толькі пакідаюць дакументы, але абавязкова рэгіструюцца ў дзяжурнай — гэта патрабаванне міліцыі. Як і закрыццё кратамі ўсіх вокнаў на першым паверсе. "Вы ж ведаеце, у які час мы жывем", — сумна ўсміхнуўся М.Васільеў.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# МІФЫ І РЭАЛІІ АДНАГО ІНТЭРНАТА

***Памятаеце, героя п'есы А.Дударава "У прыцемках" Старцава адпраўляюць у Дом заслужаных ветэранаў, у мястэчка з назвай Замагільнае. "Каго я там не бачыў, састарэлага Янкоўскага?" — гаворыць ён. Захацелася на свае вочы ўбачыць гэтую ўстанову, якой адны цураюцца і ў якую другія імкнуцца. Наша "Замагільнае" аказалася не так далёка. Побач са Ждановічамі, акружаны з усіх бакоў лесам, стаіць Рэспубліканскі інтэрнат ветэранаў вайны і працы — элітная ўстанова, дзе дажываюць свой век людзі, што калісьці былі першымі ў краіне. Састарэлага Янкоўскага, канешне ж, я там не ўбачыла, ды і не магла. Аднак падчас дарогі бабулькі з задавальненнем распавядалі мне пра жыццё-быццё інтэрната, ствараючы вакол яго шэраг міфаў і гісторый. Наколькі ж гэтыя міфы адпавядаюць рэальнасці, я і паспрабавала высветліць.***



## МІФ ПЕРШЫ

Жыхары інтэрната — людзі нешараговыя. Усе яны ў свой час былі асобамі віднымі. Прызнаюся, чакала, што ўбачу ветэранаў з медалямі на грудзях, тыповых партыйных функцыянераў, аднак... Перада мною былі самыя звычайныя пенсіянеры, без "ранга-класавых" адрозненняў. Падобна, што ўсе іх рэгаліі і заслугі засталіся там, у мінулым. Тут жа яны жывуць зусім іншымі турботамі. Сярод іх ёсць і такія, хто зведаў узлёты кар'еры, але так і не займеў уласнай сям'і. У кагосьці занадта рана памерлі дзеці, іншым уласныя дзеці стварылі такія невыносныя ўмовы жыцця, што пенсіянерам давялося шукаць паратунку ў дзяржаўным інтэрнаце.

Я буду не зусім шчыраю, калі скажу, што мінулае для іх засталося па-за межамі інтэрната. У клубе створаны ўласны музей, музей самых нешараговых асоб, якія жылі і жывуць у інтэрнаце. На партрэтах тыя, хто бачыў, чуў і нават ахоўваў Леніна, камуністы — героі грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, заслужаныя настаўнікі, дзеячы культуры. Маю ўвагу прыцягнуў партрэт жвавай бабулькі, як я даведалася, Героя Сацыялістычнай працы Куніцкай Надзеі Іванаўны. У свой час ёй падарылі мільённы трактар, з ім яна і прыехала ў інтэрнат. І зараз калі-нікалі бабулька любіць сесці за руль трактара і праехаць на падсобны ўчастак. Аднак такіх у інтэрнаце — адзінкі. Большасць жа — старыя і нямоглыя пенсіянеры. І, гледзячы на іх, разумееш, што ўзрост сцірае любыя сацыяльныя межы.

## МІФ ДРУГІ

Зразумела, патрапіць у гэты інтэрнат чалавеку "з вуліцы" практычна немагчыма. А сёння — тым больш. Ходзяць упартыя чуткі пра тое, што "хтосьці" чакае, пакуль памруць усе старыя жыхары інтэрната, каб потым на яго базе адкрыць Дом адпачынку. Маўляў, таму вельмі рэдка ў інтэрнаце з'яўляюцца новыя жыхары. Версія гэтая не набыла падтрымкі. Як і раней, існуе чарга на пастаяннае засяленне ў інтэрнат. Павольна, аднак яна рухаецца. Кожны выпадак разглядаецца асобна на калегіі Міністэрства сацыяльнай абароны, і толькі ў яе кампетэнцыі вырашэнне гэтага пытання. Магчыма, пастаянных жыхароў інтэрната бянтэжыць тое, што побач з імі жывуць людзі, якія прыязджаюць сюды адпачыць па пуцёўках. Зрэшты, чаму б і не? Не кожны пенсіянер пажадае назаўсёды пакінуць сваё сталае месца жыхарства, а вось на месяц — калі ласка. Тым больш, у "карэнных" жыхароў няма аніякіх падстаў хваляваецца, што раптам прыйдзе дзень і інтэрнат расфарміруюць. Не выкінуць жа іх на вуліцу!

## МІФ ТРЭЦІ

"... А жывуць яны ў асобных кватэрах, кожны мае ўласны пакой", — гаварылі мне падчас дарогі. І сапраўды, тут, у параўнанні з іншымі інтэрнатамі, умовы добрыя. Сістэма інтэрната блочная: у блоку па два пакоі — адзін на чалавека. Зрэшты, асаблівага багацця і раскошы я тут не ўбачыла. Аднак, думаю, не гэта цікавіць людзей пад старасць. Усюды, куды я ні заходзіла, мяне з задавальненнем прымалі, запрашалі ў пакоі. І галоўнае, што я адзначыла для сябе, — тут не існуе "чамаданнага" настрою. Па ўсім відаць, што для жыхароў інтэрната гэта ў першую чаргу дом, а не часовы прытулак.

Адміністрацыйны і два жылыя карпусы спланаваныя такім чынам, што можна патрапіць у любы куток, не выходзячы на вуліцу. Гэта зручна! Да ўсяго ж, на кожным паверсе, у пераходах — усюды растуць кветкі. Можна папросту падняцца на ліфце на другі, трэці паверх, а для старога чалавека гэта, згадзіцеся, не раскоша.

## МІФ ЧАЦВЁРТЫ

"Вось, даводзіцца самому рабіць самыя розныя справы", — сказаў дырэктар інтэрната Сцяпан Пятровіч Крывалап, калі я завітала да яго ў кабінет. На дырэктарскім стале ляжала рэкламная газета, а сам дырэктар дамаўляўся па тэлефоне наконт закупак таннага алею. А кажуць жа, што тут пенсіянеры, нібыта сыр у масле, катаюцца!..

Як высветлілася, пытанне харчавання пенсіянераў — гэта праблема абслугоўваючага персаналу. Нельга сказаць, што старыя тут галодныя. Наадварот. Па выніках дзевяці месяцаў гэтага года толькі на харчаванне кожнага з пенсіянераў было выдаткавана больш за дваццаць мільёнаў рублёў. Шмат? Аднак, рэальна на гэтыя грошы не пашыкуеш. Між іншым, у сталоўцы, дзе харчуюцца пенсіянеры, заказная сістэма страў. Інтэрнат мае падсобную гаспадарку, дзе вырошчваецца зеляніна, гародніна. Жыхары інтэрната не ведаюць клопатаў, звязаных з харчаваннем.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Я не ўбачыла ў інтэрнаце нічога "звыш" і "супер". Прасторныя карпусы, добрае харчаванне, пільны медыцынскі дагляд — усё гэта, здавалася б, рэчы відавочныя. Хаця менавіта іх, першапачатковых і неабходных элементаў дабрабыту, нестае большасці падобных устаноў для пенсіянераў. Аднак самы вялікі скарб інтэрната — увага персаналу да старых. Усе паважліва вітаюцца, пытаюцца пра здароўе, справы. Раскоша? Мяркуючы па нашым жыцці — так. Канешне, існуе шмат людзей, якія нават не мараць правесці канец свайго жыцця ў такіх умовах. Аднак гэта ўжо зусім іншая тэма...

"А вось я не хачу ў гэты інтэрнат, — сказала мне адна бабулька па дарозе ў Мінск. — Прыеду да сястры ў госці, пабуду крыху і вяртаюся дадому. Лепш у сваёй кватэрцы, чым так, як у інтэрнаце... Яшчэ напішыце, што рэдка ходзяць сюды аўтобусы. А тут жа таксама людзі жывуць. І не пашкодзіла б электрычнасць да прыпынку правесці..."

**Таццяна КОМАНАВА**

№ 41 24 — 30 кастрычніка 1998 г.

# СВЯТА ТЭАТРАЛЬНАЙ СВЕЧКІ, АСОБЫ АКЦЁРА І... НЕДАРЭЧНАСЦЕЙ

Гэты тыдзень стаўся фінальным для III Міжнароднага фестывалю монаспектакляў "Я". Прафесіяналы тэатральнага мастацтва з чатырнаццаці краін на працягу шасці дзён спаборнічалі на розных сцэнічных пляцоўках Мінска. На фестывалі было паказана 19 акцёрскіх работ, аднак практычна пасля трэцяга дня праглядаў пераможца быў высветлены. Моніка Шнайдэр са Швейцарыі сваім спектаклем "Паячча" настолькі ўразіла гледачоў і крытыкаў, што спрэчак у кампетэнтнага журы не назіралася зусім. І атрыманне Монікай Гран-пры на закрыцці фестывалю не з'явілася нечым нечаканым. Таму найбольшую цікаўнасць гледачоў выклікала пытанне: "Хто зойме астатнія тры месцы?" Так атрымалася, што на Беларусі застаўся толькі трэці прыз. Яго атрымала Эмілія Пранскутэ за монаспектакль "Пацукалоў". Астатнія месцы размеркаваліся наступным чынам: другое — Бірутэ Марцынкявічутэ (Літва), а першае атрымаў малдаўскі акцёр Дзімітру Фусу. Прычым атрымаў "под занавес" — яго выступленне было апошнім на фестывалі.

На жаль, нашыя беларускія монаспектаклі, нягледзячы на іх разнастайнасць, не атрымалі высокіх месцаў. Толькі народнаму артысту СССР, акцёру тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск) Фёдару Шмакаву быў уручаны спецыяльны прыз "За выдатнае выкананне акцёрскай ролі". Астатнія, як гэта прынята, атрымалі дыпломы ўдзельнікаў.

Сёлетні фестываль адрозніваўся ад астатніх... спазненнямі. У асноўным гэта адметнасць тычылася журы: то адзін спектакль затрымаюць сваім спазненнем на паўтары гадзіны, то другі — хвілін на пяцьдзесят. Апафеозам (альбо лагічным вынікам?) стала закрыццё фестывалю — яно пачалося на гадзіну пазней прызначанага. Глядзельная зала пачынала хвалявацца. Сітуацыю выратавала самадзейнае трыо з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Моладзь з галёркі пачала спяваць разам з імі, глядач расслабіўся, а тут ужо, неўзабаве, і журы сабралося ў поўным складзе. Цырымонія ўручэння ўзнагарод была нейкай неадрэпеціраванай, скамканай: блыталі, каму што ўручаць, куды каго ставіць, што каму казаць... Зразумела, не абышлося без Акцёра (збіральнага вобраза), у якасці якога выступіў Алег Гарбуз, і трох невядомых німфаў: з люстэркам, ручніком, келіхам празрыстага напою (вады—гарэлкі?) і свечкай. Той самай свечкай, што заззяла на адкрыцці фестывалю, толькі зараз яе трэба было загасіць. Такое цяжкае выпрабаванне выпала на долю "маці" фестывалю Антаніны Міхальцовай. На яе пытанне "Загасім?" студэнты-гледачы неяк крыважэрна згадзіліся: "Загасім".

Зараз засталося прывесці ў належны стан сцэнічныя пляцоўкі тэатра "Зьніч", Малых сцэн Рускага і Купалаўскага тэатраў і тэатральныя будні беларускай сталіцы працягнуцца далей.

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# ЦЫКЛ — ГЭТА ВАМ НЕ АБАНЕМЕНТ

Слова "абанемент" стала апошнім часам амаль што ганебным: абанементныя квіткі ў гарадскім транспарце, школьныя ўспаміны пра распаўсюджванне кінаканцэртных абанементаў сапсуюць настрой каму заўгодна. Але ж ёсць яшчэ "апошнія з магікан", хто намагаецца вярнуць былую славу філарманічным абанементам —тым, дзе гэта слова азначае пэўную паслядоўнасць канцэртаў на працягу сезона і, галоўнае, нейкую канцэпцыю ўсяго цыкла.

"Музыка XX стагоддзя" — так назвала свой цыкл, разлічаны на дзесяць канцэртаў за два гады, Таццяна Старчанка. Яе мэта — вывесці на вялікую сцэну шматлікія камерныя ансамблі, што існуюць у краіне, паказаць у іх выкананні хараство сучаснай музыкі — у тым ліку той, якую мы амаль не ведаем, і, зразумела ж, беларускай.

Адкрые цыкл фартэпіяннае свята: 24 кастрычніка мы зможам пачуць адразу ўсіх шасцярых піяністаў — салістаў філармоніі: Ігара Алоўнікава, Алега Крымера, Андрэя Сікорскага, Цімура Сергіеню, Ірыну Шуміліну і саму Таццяну Старчанка. "Фартэпіяннае мастацтва, — расказвае яна, — больш за іншыя адасоблена. Мы зачыняемся ў класе і рэпеціруем, рэпеціруем, не адчуваючы падтрымкі калег, як гэта бывае, напрыклад, у аркестрантаў. Таму і нарадзілася ў мяне ідэя з'яднаць піяністаў і паказаць, што ўсе яны — розныя: у кожнага свой унутраны свет, свой стыль, манера выканання, свой рэпертуар".

У канцэрце прагучаць творы Рахманінава, Пракоф'ева, Дэбюсі, Віла Лобаса, Шнітке і сучаснага маскоўскага аўтара Валянціна Бярынскага.

**Наш кар.**

# БОЖЫ ДАР ЦІ Д'ЯБАЛЬСКАЯ ПРАЦА?

***"Дар Божы"... Такую назву даў Уладзімір Перлін свайму калектыву — камернаму аркестру Рэспубліканскага музычнага каледжа — напярэдадні яго 10-годдзя. З-за назвы спрачаліся ў кулуарах: маўляў, адоранасць дзіцяці ад прыроды — толькі першая прыступка на яго доўгім і цяжкім шляху да вяршынь музычнага Парнаса. Але ніхто не спрачаўся з тым, што за кароткі тэрмін свайго існавання, пры найвялікшай "бягучасці кадраў" (дзеці, вядома ж, растуць — і гэта ніяк не аспрэчыш), калектыў стаў аркестрам "нумар раз" у краіне. І не толькі! Сярод канцэртаў (а іх было дадзена больш за 700) трыумфальныя выступленні ў Германіі, Францыі, Бельгіі, Галандыі, Польшчы, Англіі.***

Сапраўдным святам стаўся і юбілейны канцэрт калектыву. Не толькі з-за аншлага, кветак, віншаванняў. Адчуванню свята спрыяла сама музыка, яе бездакорнае, напоенае любоўю да кожнага гуку, выкананне. А яшчэ атмасфера непасрэднага музіцыравання, калі, здавалася, усё нараджаецца, нібы імправізацыя. І забывалася, што за ўсім гэтым стаіць цяжкая праца, штодзённыя шматгадзінныя рэпетыцыі, часам "тэрор" кіраўніка, нават непаразуменні з бацькамі вучняў і іх выкладчыкамі па спецыяльнасці.

Затое не пакідала думка пра сувязь пакаленняў. Яе лейтматыў гучаў то ўзнёсла, то настальгічна, то трывожна. Разам з цяперашнімі ліцэістамі ігралі былыя выпускнікі, на змену У.Перліну выходзіў маленькі Саша Дулаў, каб прадырыжыраваць пачаткоўцамі, што ростам ніжэй за сваю віяланчэль. Гучалі словы шчырых віншаванняў ад "старэйшага" і "сярэдняга" братоў — сімфанічнага і камернага аркестраў Беларусі: "Дарагія маладыя калегі! Для вас у нашым калектыве заўсёды ёсць і будуць вакантныя месцы". І думалася, куды ж падзяюцца потым такія цудоўныя аркестранты: ці што ж толькі за мяжу? І чаму пры такім фантастычным "школьным" аркестры мы потым маем даволі сярэднія прафесійныя? Ці проста побыт, як кажуць, заядае — ці паступова губім мы ў музыках той трапяткі пацалунак нябёсаў, што так і свяціўся на іх тварах?..

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# МАЛА НАМ МАЛЕЦКАГА!

"Варшаўская музычная восень", знакамітая ва ўсім свеце сваімі авангарднымі пошукамі, адфестывaліла яшчэ ў верасні. "Беларуская музычная восень", вядомая ў СНД пошукамі знакамітых гастралёраў, яшчэ не "лістападзіла". Але нейкім няўлоўным чынам дзве гэтыя "восені" сутыкнуліся 20 кастрычніка ў Камернай зале філармоніі, дзе гучалі творы сучасных польскіх кампазітараў Мацея Малецкага, Паўла Бучыньскага, Яна Аляшковіча і Хенрыка Мікалая Гурэцкага ў выкананні ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава.

Гэта быў першы канцэрт з цыкла "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя", наладжаны ансамблем сумесна з Польскім Інстытутам у Мінску. Усё было на найвышэйшым узроўні: і ўзрушаная ігра музыкантаў, якія за кароткі тэрмін падрыхтавалі найскладаныя творы, і выдатна надрукаваная праграмка (бясплатная!), што па афармленні нагадвала мастацкі буклет. Вось толькі, на жаль, сам Малецкі — старшыня Польскага Саюза кампазітараў, які павінен быў саліраваць ва ўласных творах, не змог прыехаць: у яго на гэты дзень прыпадаў яшчэ адзін, даўно замоўлены канцэрт. Але ж абяцаў прыехаць у Віцебск, дзе адбудзецца Міжнародны фестываль імя І.Салярцінскага, і згаданы канцэрт паўторыцца на "біс".

**Наш кар.**

# ІНСТРУМЕНТОЎКА РЫФМЫ

Ужо стала добрай традыцыяй праводзіць у Доме афіцэраў культурныя мерапрыемствы для вайскоўцаў. Цікавая і эмацыянальная праграма "Паэзія і песня", падрыхтаваная літаратурна-мемарыяльным музеем Я.Коласа і літаратурным музеем П.Броўкі, і на гэты раз — 18 кастрычніка, спадабалася слухачам.

Удзельнікамі мерапрыемства былі старэйшына нашай літаратуры, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы — Мікола Аўрамчык. Ён ведаў Я.Купалу, не раз бываў пасля Вялікай Айчыннай вайны ў Я.Коласа дома. Ён дапамог не аднаму дзесятку маладзейшых за сябе паэтаў знайсці дарогу ў літаратуру, выпрацаваць свой творчы голас. Маючы за плячыма амаль восем дзесяткаў гадоў, Мікола Аўрамчык і зараз плённа працуе, актыўна ўдзельнічае ў літаратурна-культурным жыцці, любіць сустрэчы з моладдзю. І сам застаецца маладым душой і ў творчым натхненні.

З цікавасцю ўспрымаўся выступ вядомага беларускага паэта, празаіка, перакладчыка Уладзіміра Паўлава. Слухачам спадабаліся яго вершы з добрай інструментоўкай радка. Адзін з іх — "Жаваранак" — прагучаў як песня ў выкананні самога кампазітара Алега Чыркуна, які праспяваў і песні на словы А.Ставера, М.Ясеня...

Гумарыстычнымі вершамі пацешылі слухачоў паэты Анатоль Зэкаў і Іван Курбека.

Годна вёў праграму літаратуразнавец Міхаіл Пратасевіч.

**Марыя ІМБРО**

# ІМЯ СВЯЦІЦЕЛЯ ТУРАЎСКАГА

Гарадскую бібліятэку № 11 г. Гомеля нездарма называюць культурна-духоўным цэнтрам імя свяціцеля Кірылы Тураўскага. Тут рэгулярна ладзяцца выставы рознага накірунку і літаратурныя вечарыны. Так, восеньскімі днямі былі арганізаваны некалькі выстаў пад агульнай назвай "Фарбы роднага краю", у якіх узялі ўдзел мастакі — І. Хлебаказаў і Г. Равуцкая. Пад патранажам паэтаў Міколы Старчанкі і Ганны Атрошчанка, спявачкі Марыі Куліковай быў праведзены Тыдзень беларускай мовы. На базе культурнай установы плённа дзейнічае праваслаўная нядзельная школа, якая выпускае газету "Лампада". Мяркуецца зладзіць кніжныя выставы, урокі міласэрнасці, якія распавядуць пра жыццё пажылых людзей.

**Галіна ВІШНЯ**
*г. Гомель*

# ЗАСНАВАНАЯ Ў 1877-М

Не так даўно я браў удзел у канферэнцыі, якая была наладжана Міжнароднай групай Бібліятэчнай Асацыяцыі Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, а таксама знаёміўся з вопытам працы брытанскіх калег. Адразу павінен зазначыць, што гэтае запрашэнне так і засталося б нічога не вартым аркушыкам паперы, калі б не фінансавая падтрымка, аказаная мне і самой Бібліятэчнай Асацыяцыяй Вялікабрытаніі (выдаткі па знаходжанні ў краіне), і Брытанскім Саветам у Мінску (авіябілеты і віза). Апошняе здаецца нават больш важным, бо, не прыляцеўшы ў краіну, я б не змог скарыстаць першае!

Канферэнцыя, якая адбывалася ў Брыстолі, была прысвечана даволі незвычайнай тэме — практыцы інфармацыйнага абслугоўвання падчас войнаў і іншых катастроф, прадмету, які не мог не быць карысным прадстаўніку постчарнобыльскай Беларусі. Даклады былі прысвечаны як пераадоленню бібліятэкамі наступстваў стыхійных бедстваў, так і ўласна практыцы інфармацыйнай дзейнасці ў экстрэмальных умовах.

Другая частка майго кароткага візіту прайшла ў Лондане і была, мабыць, яшчэ больш карыснай: у Брытанскай бібліятэцы і Інфармацыйным цэнтры універсітэта Паўночнага Лондана ўдалося пазнаёміцца з арганізацыяй бібліятэказнаўчых даследаванняў, якія наладжваюцца ў Вялікабрытаніі самімі бібліятэкамі і інфармацыйнымі цэнтрамі, з формамі ацэнкі бібліятэк і іхняй працы. Пазнаёміўся я, нарэшце, з тым, пра што раней толькі чытаў: з арганізацыйнай структурай Бібліятэчнай Асацыяцыі Вялікабрытаніі і з вопытам яе выдавецкай дзейнасці.

Выдавецтва Асацыяцыі з'яўляецца найбуйнейшым у свеце па пытаннях бібліятэчнай справы, а тэматыка выдаваемай літаратуры ахоплівае абсалютна ўсе яе аспекты. Сама ж Асацыяцыя заснавана ў 1877 годзе, з'яўляючыся адной з найстарэйшых у свеце. Яна назапасіла каштоўны вопыт працы па ўз'яднанні, прафесійным развіцці, сацыяльнай абароне і міжнародных сувязях бібліятэкараў. Вопыт яе выдавецкай дзейнасці проста унікальны.

Напрыканцы хачу выказаць сардэчную падзяку спонсарам: Брытанскаму Савету ў Мінску (Наталля Дземчанка) і Бібліятэчнай Асацыяцыі Вялікабрытаніі (Дзіяна Розенберг, Джыл Марцін, Энтані Во, Пол Стругес).

**Уладзімір ЛАЗАРАЎ, віцэ-старшыня Камітэта па навуцы, адукацыі і падрыхтоўцы кадраў Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі.**

# ФАНФАРЫМ ТУТ, ФАНФАРЫМ ТАМ

Але ж не самі, а з дапамогай духавога аркестра Беларускай акадэміі музыкі "Фанфары Беларусі". Узнік ён у 1994 годзе, існаваў ціха-мірна, удзельнічаў у канцэртах Белдзяржфілармоніі, раз-пораз заяўляючы пра сябе цёплымі словамі рэцэнзентаў. У снежні 1996 года калектыў іграў з Дортмундскім квартэтам саксафаністаў, у мінулым канцэртным сезоне — са знакамітай расійскай саксафаністкай Маргарытай Шапашнікавай, якая неаднаразова падкрэслівала высокае майстэрства нашых студэнтаў.

Бягучы год увогуле стаў для аркестра, і асабліва для яго кіраўніка Аркадзя Берына, трыумфальным. Калектыў двойчы пабываў у Люксембургу. У траўні, набраўшы 59 балаў з 60 магчымых, стаў лідэрам тамтэйшага конкурсу. У ліпені пераможна ўдзельнічаў у Міжнародным маладзёжным фестывалі "DIFFWINDS", які праводзіў Універсітэт Маямі.

— Пасля першага конкурсу, — расказвае А.Берын, — нас вызвалілі ад грашовага ўзносу (50 нямецкіх марак на чалавека), наладзілі харчаванне і пражыванне. Вялікую зацікаўленасць праявіў Франсіс Георген — прэзідэнт Асацыяцыі маладзёжных аркестраў. Рэклама аркестра ішла за кошт імпрэсарыо з Дзюсельдорфа. Мы выйшлі на прамы кантакт з замежнымі арганізатарамі гастролей. Атрымалі ліст ад члена журы, кампазітара Кеса Фіяка: мы выконвалі яго твор "Нью-Ёрк", цяпер ён хоча запісаць у нас дыск.

Асаблівую падзяку А.Берын выказвае Міністэрству культуры Беларусі, якое фінансавала паездкі, а таксама мытнікам Брэста, што прапусцілі без чаргі. Скардзіцца на праблемы з касцюмамі, інструментарыем, а таксама на студэнтаў, што не заўсёды разумелі значнасць падзей і выказвалі яму прэтэнзіі, патрабуючы перад шматгадзінным канцэртам дадатковы бутэрброд: маўляў, не пад'еш — не падудзіш. А яшчэ Аркадзь Іосіфавіч марыць, каб "Фанфары Беларусі" сталі Прэзідэнцкім аркестрам. І каб атрымаўся Першы міжнародны конкурс духавых аркестраў, правядзенне якога Міністэрства культуры запланавала на 2000-ы год.

Студэнты ж мараць, каб прэміямі на такіх конкурсах былі не толькі ганаровыя кубкі, што будуць упрыгожваць альма-матэр, але і валютныя ўзнагароды, якіх хопіць не на адзін дадатковы бутэрброд. Пакуль жа ў якасці "кампенсацыі" аркестр атрымаў 100 мільёнаў рублёў ад Спецыяльнага Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. І па 20 нямецкіх марак ад уладальніка рэстарана ў Ахаузе (Германія), дзе 5-гадзінным канцэртам зараблялiся грошы на дарогу дадому.

Але ж на тое яны і "Фанфары", каб быць гучнейшымі за звон манет. Адное толькі бянтэжыць: каб быць заўважаным за чатыры гады свайго існавання, аркестру трэба было найперш дасягнуць замежнага прызнання. Няма прарока ў сваёй айчыне? Ці проста крытэрыі сталі іншыя? Раней боскі арэол вакол нашых музычных калектываў, іх мастацкі ўзлёт быў непарыўна звязаны з іх зацікаўленасцю беларускай музыкай. Росквіт народнага аркестра імя І.Жыновіча, прэстыж Мінскага камернага, трывалае замацаванне "Класіка-Авангарда" — усё распачыналася з карпатлівай працы над беларускімі прэм'ерамі.

"Фанфары" не пакутуюць пакуль з-за вялізнай чаргі нашых творцаў, якія б марылі прысвяціць ім свае бессмяротныя нотныя думкі (за выключэннем хіба што Генадзя Ермачэнкава, што напісаў для "Фанфар" — "Фанфары"). І самі за тымі творцамі асабліва не бегаюць, аддаючы перавагу апрацоўкам Льва Муранава. Значыць, лепшыя часы наперадзе?

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

MULTUM IN PARVO

# АЛО, ХАЛІ-ХАЛО!

**4 — 5 снежня ў Наваполац-ку ў гарадскім Палацы культуры (вул. 5-я лінія, 5) дзеля:**

— садзейнічання мастацкаму развіццю і выканальніцкаму майстэрству дзяцей і моладзі;

— пошуку і раскрыцця таленту сярод маладых выканаўцаў і прыцягнення да актыўнай творчай дзейнасці;

— спрыяння культурнаму правядзенню вольнага часу моладзі;

— узбагачэння духоўнага свету насельніцтва здабыткамі музычна-песеннага мастацтва сучаснай Беларусі, —

пройдзе V Рэспубліканскі дзіцячы фестываль "Халі-Хало — 98".

У фестывалі могуць прыняць удзел выканаўцы ва ўзросце ад 6 да 17 (уключна) гадоў. У час фестывалю праводзіцца конкурс па чатырох катэгорыях:

— ад 6 да 8 гадоў;
— ад 9 да 12 гадоў;
— ад 13 да 15 гадоў;
— ад 16 да 17 гадоў.

Канкурсанты рыхтуюць да выканання дзве песні, адна з іх на беларускай мове. (У выпадку адсутнасці песні на беларускай мове журы мае права зніжаць адзнаку за выкананне).

Заяўку (дадаецца), магнітафонны запіс, нотны матэрыял, друкаваныя тэксты песень, фотаздымак для акрэдытацыі памерам 3х4 см (лепш каляровы) і (пажадана) відэакасету дасылаць на адрас аргкамітэта да 15 лістапада 1998 года:

Аддзел культуры,
"Халі-хало — 98"
вул.Маладзёжная, 74,
г.Наваполацк,
Віцебская вобласць

Фанаграмы павінны мець якасны запіс на кампакт-касеце замежнай вытворчасці (назад не адсылаюцца). Творчы калектыў мае права даслаць не больш адной заявы ў кожнай катэгорыі.

Дапушчаным да ўдзелу ў фестывалі дасылаецца асабістае запрашэнне аргкамітэта пасля 20 лістапада.

Удзельнікі, кіраўнікі, суправаджаючыя асобы знаходзяцца на фестывалі за кошт арганізацый, якія іх камандзіравалі. Кошт знаходжання на фестывалі 2 — 6 снежня адной асобы складае 40 умоўных адзінак па курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на дзень аплаты (харчаванне, пражыванне, культурная праграма). Магчыма пералічэнне сродкаў па безнаяўным разліку на р/р № 3732200050044 у Наваполацкім аддзяленні № 214 ААБ "Беларусбанк", код 660 з паметкай "За ўдзел у фестывалі". У кожнай катэгорыі журы вызначае пераможцаў: лаўрэат — 1-е месца, дыпламант — 2-е і 3-е месцы, якім уручаюцца спецыяльныя дыпломы фестывалю і каштоўныя падарункі, а таксама прысуджае спецыяльныя прызы.

Пры вызначэнні пераможцаў журы ўлічвае:

— чысціню і выразнасць выканання;

— выканальніцкае майстэрства і сцэнічную культуру;

— адпаведнасць рэпертуару ўзроставым асаблівасцям выканаўцы;

— якасць аранжыроўкі;

— касцюм.

**Аргкамітэт**

Археалагічныя раскопкі на месцы былога Успенскага сабора ў Віцебску праводзяць супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук РБ. Пакуль удалося ўзнавіць рэшткі сабornага падмурка ды сабраць шэраг цікавых знаходак XVIII—XIX стагоддзяў.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

*Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь*
*Беларускі Саюз майстроў народнай творчасці*



ЗАПРАШАЕМ

*на 1-е Рэспубліканскае свята-конкурс лозаплячення*

"ЛАЗОВЫЯ КАРУНКІ"

*якое адбудзецца 24 кастрычніка 1998г.*
*ў памяшканні Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў па адрасе: Мінск, пр. Скарыны, 25.*
*Пачатак ў 10.00*

# ВЫШЫВАНЫ РУЧНІК — ГЭТА НЕ ПРОСТА

рэч побыту, а своеасаблівы летапіс роднага краю. А пераканацца ў гэтым і наблізіцца да сваіх каранёў дасць магчымасць выстава "Беларускі ручнік", што пад эгідай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускага інстытута праблем культуры 23 кастрычніка адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. Выстава працягнецца да 24 лістапада.

**С.М.**

# "ODRODZONA SZKOŁA"

На жаль, я пішу толькі па-руску і па-беларуску, але мае матэрыялы надрукаваны ажно на дваццаці дзвюх мовах, цяпер найбольш на ўкраінскай і польскай.

Браты-палякі ў Гродне друкуюць два выданні на сваёй мове: часопіс "Магазін польскі" і газету "Глос знад Нёмна". У апошняй і публікуюцца найбольш часта мае матэрыялы на разнастайныя тэмы, у ёй, як і ва ўкраінскай газеце "Берестейский край", перакладаюць мае артыкулы з беларускай, але, не буду хаваць, я патроху чытаю па-польску і па-ўкраінску.

На днях атрымаў падарунак з Гродна ад Саюза палякаў на Беларусі — кнігу Рышарда Карачуна "Odrodzona szkoła" ў серыі "Бібліятэка Саюза палякаў на Беларусі". Рэдактарам гэтай серыі з'яўляецца мой добры знаёмы, руплівец і энтузіяст Яўген Скрабоцкі. Пакуль гэта толькі першы том, надрукаваны ён у выдавецтве С.Лаўрова накладам 6500 экземпляраў.

Аб чым гэтае выданне? Калі коратка, дык аб тым, як з'явілася ў Гродне польская школа. У кнізе дзевяць раздзелаў, шмат у ёй дакументаў і фотаздымкаў. Насычанасць імі, канешне, аздабляе і ажыўляе кнігу.

Польская меншасць — гэта частка культуры Беларусі, але найбольш актыўная і, як бачна, са сваімі значнымі набыткамі.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

*г. Баранавічы*

# ВЫНІКІ ГОДА

22 — 23 кастрычніка у Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў Міністэрства культуры правозіла рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю "Аматарская творчасць: устойлівыя і новыя тэндэнцыі". Падчас канферэнцыі абмяркоўваліся вынікі Першага фестывалю народнага мастацтва Беларусі "Беларусь — мая песня", агульныя праблемы культасветработы, стан і перспектывы развіцця жанраў мастацкай творчасці краіны.

Для ўдзелу ў канферэнцыі былі запрошаныя прадстаўнікі ўпраўленняў культуры аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама, цэнтраў народнай творчасці, гарадскіх, раённых аддзелаў культуры, раённых метадычнах цэнтраў, вядучых калектываў мастацкай творчасці, а таксама спецыялісты мастацкіх ВНУ.

**Наш кар.**

# ІСКРЫ ЦЯПЛА

У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі пачала працаваць выстава традыцыйных народных рамёстваў. Яна арганізавана Беларускім саюзам майстроў народнай творчасці (БСМНТ) па ініцыятыве дырэктара музея А.Салаўёва.

Прысутныя на адкрыцці выставы мелі магчымасць прыняць удзел у экскурсіі, якую правёў Яўген Сахута, старшыня праўлення БСМНТ, доктар мастацтвазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, "Чалавек года-97". Народныя майстры — Л.Лось, А.Лось, А.Кірычак, А.Артыцкая, К.Пакаліцына, М.Гільніч, Н.Бортнік, В.Уласік і многія іншыя неаднаразова ўдзельнічалі ў розных выставах, якія праводзіў БСМНТ у рамках праграмы папулярызацыі традыцыйных беларускіх рамёстваў. Мінчукам і гасцям сталіцы, пэўна, запомнілася Нацыянальная выстава народнай творчасці, якая адбылася ў Палацы мастацтва, дзе былі прадстаўлены вырабы 600 майстроў з усіх куткоў Беларусі, а жыхары Светлагорска мелі магчымасць наведаць выставу БСМНТ у Музеі гісторыі горада.

Адна з галоўных задач, якую Беларускі саюз майстроў народнай творчасці ставіць перад сабой, — усебаковая падтрымка ідэі нацыянальнага духоўнага адраджэння.

**Ірына КОРАБАВА**

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ КАЛЕГІ...



18 кастрычніка на 57-м годзе цяжкая хвароба раптоўна абарвала жыццёвы шлях вядомага мастацтвазнаўцы, педагога, актыўнага грамадскага дзеяча, сябры суполкі "Пагоня" Беларускага Саюза мастакоў Генадзя Генадзевіча Сакалова-Кубая. Усе, хто былі яго вучнямі, калегамі, сябрамі, перажываюць гэта як вялікую страту. Ён быў асобай з энцыклапедычнай глыбінёй культурных ведаў; захапляў паглыбленым асэнсаваннем гісторыі культуры Беларусі і ясным бачаннем перспектывы яе адраджэння. Усё яго свядомае жыццё — гэта няспынны шлях адкрыцця забытых ці аддадзеных іншым культурам нацыянальных скарбаў — у мастацкіх вобразах, у навуковых даследаваннях, у лекцыйнай практыцы.

Пасля пасляховага завяршэння вучобы ў Мінскай мастацкай вучэльні ён у 1969 г. абараніў дыплом у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Цікавасць да гісторыі мастацтва роднага краю прыводзіць яго ў 70-я гг. у аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, дзе ён займаецца праблемай партрэтнага жывапісу часоў Вялікага княства Літоўскага. Але тагачасная кансерватыўнасць гістарычных поглядаў не спрыяла падтрымцы ў акадэмічных колах наватарскіх адкрыццяў спадчыны, і малады даследчык цалкам прысвяціў сябе арганізатарскай і асветніцкай дзейнасці.

У 1980 г. Генадзь Генадзевіч узначаліў аддзел выяўленчага мастацтва Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці, дзе праявіў сябе як выдатны знаўца нацыянальных традыцый і арганізатар шэрага семінараў народных разьбяроў у Гродне, Навагрудку і іншых мясцінах, дзе зараз знаходзяцца арыгінальныя комплексы драўлянай скульптуры, створаныя пад яго кіраўніцтвам. З 1986 года нястомны прапагандыст нацыянальнай спадчыны перадае свае веды маладому пакаленню творчай інтэлігенцыі ў Дзяржаўным універсітэце культуры, Мінскай мастацкай вучэльні, а затым і ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Ён чытае лекцыі па гісторыі беларускага мастацтва, па мастацтве народаў Прыбалтыкі, этнагенезе беларусаў, мастацтве старажытных цывілізацый. Высокай эрудыцыяй і самастойнасцю думкі вызначаліся яго артыкулы па гісторыі і сучасным мастацкім жыцці Беларусі ў энцыклапедычных выданнях, шасцітомным зборніку "Гісторыя беларускага мастацтва", у часопісах "Мастацтва", "Маладосць", штотыднёвіку "ЛіМ" і інш. Без яго чыннага ўдзелу не абыходзілася ніводнае абмеркаванне выстаў беларускіх мастакоў, ён адкрываў новыя імёны, падтрымліваў і прапагандаваў усё самабытнае, вобразна-глыбокае, адкрыўчае.

У 90-я гг. ён не застаўся ўбаку ад працэсаў дэмакратызацыі жыцця, уключыўся ў шырокую грамадскую дзейнасць, узяў на сябе адказныя абавязкі ў Таварыстве беларускай мовы імя Ф.Скарыны ў справе падтрымкі беларускіх школ.

Усім, каму давялося працаваць, сустракацца з Генадзем Генадзевічам, памятаюць яго як чулага, добразычлівага чалавека, які нёс іншым свае пераканanні, жаданне перадаць усё багацце сваіх ведаў, шчырых сяброўскіх адносін. Яго творчая спадчына яшчэ чакае свайго асэнсавання і друкаванага выдання. Светлая памяць аб ім будзе працягвацца ў справах яго вучняў, аднадумцаў, паплечнікаў.

**Калектыў кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванне галоўнаму рэжысёру Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа Баркоўскаму Віталію Міхайлавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

Сем вечароў з БТ

# РАЗМІНКА ДЛЯ ГЛЕДАЧОЎ, альбо "ЖЫВЫ" ЭФІР ЯК ТАНІЗУЮЧЫ СРОДАК

Ох, і рана пачынаецца гэта размінка. Ужо ў шэсць трыццаць раніцы бадзёра-ветлівым пажаданнем: "Добрай раніцы, Беларусь!" вас разбудзяць двое вядучых з кубачкамі кавы (?) у руках... калі вы ўключыце свой тэлевізар. У такі час большасць каналаў яшчэ маўчыць, таму, калі вам патрэбен ранішні субяседнік, без БТ вам не абысціся.

А субяседнік — абавязковы госць ранішняй праграмы. І не адзін. Толькі спачатку для размінкі вам прапануюць паказ фізічных практыкаванняў пад бадзёрую музычку, пакажуць мультфільм, ранішнія навіны (праўда, часцей яны ўчарашнія), зноў мульцік і, нарэшце, — субяседніка. Недзе пасля сямі гадзін. Відаць, на больш ранні час субяседніка не дазвацца — трэба ж улічваць графік працы гарадскога транспарту. Нічога новага, але і ў нас усё, як у людзей!

Новае — добра забытае старое. Новае старое — прамы ці, як кажуць, некаторыя вядучыя, — наўпросты эфір. Напачатку было слова, жывое слова, ніхто не запісваўся на магнітную стужку, каб сказаць некалькі слоў, і гэты жывы эфір хваляваў куды больш, чымсьці запіс! Бо жывы эфір — лепшы танізуючы сродак з усіх напояў.

Жывое хваляванне, жывы нерв і надае перадачы "наўпросты" эфір. Тая бадзёрасць, якую атрымлівае вядучы ад жывой сувязі з гледачом, перадаецца і вам. І вы хуценька прачынаецеся. І тут зусім неабавязкова ўключаць у паказ фізічныя практыкаванні. Вам перадаўся настрой вядучых, а з іх сон, як рукой, здымае "жывы" эфір. Уф, як складана. А цяпер па сутнасці. Калі вы яшчэ не ўключыліся ў ранішні прагляд, я раскажу, што вы згубілі.

Сустрэчу з Сашам Варламавым, які расказаў пра накірункі модных тэндэнцый. І хоць не было паказу мадэляў, можна было яскрава ўявіць, пра што ішла гаворка. Знаёмства з маладым, абаяльным старшынёй Саюза дызайнераў Беларусі Дзмітрыем Сурскім, які расказваў вядучым, што такое дызайн. Якое пытанне, такі адказ.

Даведаліся мы ад намесніка міністра сельскай гаспадаркі, што ў рэспубліцы назапашана даволі харчовых прадуктаў і што зімовы голад нам не пагражае.

Вось тут глядач прачнуўся і заварушыўся. Тлумачу. На стале ў вядучых стаіць тэлефон, па якім можна звязацца са студыяй. Ды, як правіла, ён маўчыць, а вось у гэтым месцы ён сапраўды зазвінеў... Так што лідэрам па сувязям з гледачом сталі не мастакі і дызайнер, а спецыяліст ад зямлі...

А яшчэ ранішнімі гасцямі былі галоўны ўрач 3-й Мінскай гарадской бальніцы, якая адзначала свой 70-гадовы юбілей, член Міжнароднай асацыяцыі аховы правоў чалавека Я.Новікаў — не ведаю, з якой нагоды.

Спецыяліст па харчаванні П.Бабровіч даваў парады, як з дапамогай ежы ўберагчыся ад хваробы веку, выступілі эстрадныя спевакі.

Усё добра, усё цікава, калі б не адна акалічнасць. Госць у студыі знаходзіцца не менш як гадзіну, а гаворыць хвілін дзесяць-пятнаццаць. Астатні час ён чакае, пакуль пройдуць нейкія кліпы з танцамі, спевамі і г.д. Прычым яго перапыняюць часам на паўслове, нават не запрашаючы паглядзець гэты кліп разам з вядучымі. Робіцца гэта, відаць, для надання перадачы дынамікі, маўляў, у нас гэтулькі шмат чаго сказаць, што не пасяваем...

Ды атрымліваецца часам не дынамізм, а няўвага да госця. Ведаю, што мне могуць запярэчыць: маўляў, так рабілі да нас. Але ж варта ўлічваць і памылкі папярэднікаў, а не капіраваць усляпую.

А ўвогуле ранішні жывы эфір танізуе і вядучых, і гледача. Што і патрабуецца ад ранішняй перадачы. Так што поспехаў у добрым пачынанні.

А яшчэ спяшаюся павіншаваць гледачоў з новай вядучай у праграме "Сёння з вамі..."

Дзве перадачы запар вяла Таццяна Сокава. Некалі яна пачынала ў перадачы "Эканамікст"...

Размова з анколагам Мікалаем Грыгаровічам і выкладчыкам Акадэміі музыкі Наталляй Ташчылінай вялася на добрай ноце, у танальнасці ўзаемнай зацікаўленасці. Інтэлігентна і разумна.

Добра, што гэту вячэрнюю перадачу цяпер можна паглядзець і раніцай, адразу пасля "Добрай раніцы"...

**Р.Б.**

№ 41 24 — 30 кастрычніка 1998 г.

РАСКАДРОЎКА

# НАРЫЎ, ШТО ДАЎНО САСПЕЎ, НАРЭШЦЕ ПРАРВАЎСЯ!

Нарэшце адбылася спроба стварыць альтэрнатыўны гарадскі (Мінскі) Саюз кінематаграфістаў.

Натуральна, узнікае пытанне — у чым жа прычына стварэння новага саюза, якія задачы ставіць ён перад сабой і якія перспектывы гэтага новаўтварэння?

Асновай дзейнасці кожнай грамадскай арганізацыі з'яўляецца Статут, дзе вызначаны мэты і задачы арганізацыі. Нават бегла зірнуўшы, бачна, што статут гарадскога саюза цалкам паўтарае статут БСК — Беларускага Саюза кінематаграфістаў.

Стварэнне такога ж самага па сваіх мэтах і задачах саюза бессэнсоўнае з пункта гледжання занепакоенасці лёсам беларускага кінематографа і сведчыць пра тое, што гэта звычайная барацьба за ўладу, якую амбіцыйныя кінематаграфісты не могуць атрымаць нармальным дэмакратычным шляхам, напрыклад, шляхам абрання на з'ездзе.

Вобразна кажучы, дасюль мы ўсе плылі на адным караблі ў бурлівым акіяне нашага жыцця. Але вось малая частка каманды вырашыла ўзбунтавацца і працягваць плаванне самастойна, але будаваць свой сродак перасоўвання з матэрыялаў агульнага карабля. Сітуацыя небяспечная тым, што яны не паспеюць пабудаваць свой карабель, а наш, агульны, ужо будзе разабраны. У выніку — патонуць усе!

Асабліва цынічна гучыць з вуснаў тых, хто прыклаў нямала сіл для знішчэння нашага Саюза, сцвярджэнне, што, маўляў, у якасці формы БСК адмёр.

Тым не менш, мяркуецца стварыць такое ж самае па форме "новаўтварэнне", толькі са значна меншай колькасцю сяброў.

Тут дарэчы ўзгадаць, што ў выніку надзвычайнага, падкрэсліваю — надзвычайнага з'езда, сённяшняму праўленню засталося ў спадчыну 4 мільярды рублёў доўгу (80 тысяч долараў на той час), будынак на балансе БСК, які павінны былі адабраць з прычыны запазычанасці гораду па арэндзе, вялікія непрыемнасці з падатковай інспекцыяй за фінансава-гаспадарчую дзейнасць папярэдняга кіраўніцтва (за час працы цяперашняга кіраўніцтва няма ніякіх прэтэнзій) ажно да арышту старшыні праўлення, у выглядзе прыпынення выезду за мяжу (?!). З маёмасці засталіся партрэт Ф.Скарыны ды тэлефон.

Добра ці кепска, але цяперашняе праўленне з гэтымі праблемамі справілася — даўгі заплочаны, маёмасць паступова вяртаецца і набываецца, даплаты да пенсій робяцца, матэрыяльная дапамога аказваецца, адбываюцца ўшанаванні юбіляраў, наладжваюцца прэм'еры, БСК удзельнічае, у тым ліку і фінансава, у правядзенні кінафестываляў.



Тым не менш, мы не знаходзімся ў стане эйфарыі і добра разумеем, што саюз у тым выглядзе, у якім ён існуе сёння, — гэта пародыя на тое, што было раней, і на тое, што павінна быць.

Безумоўна — нам неабходны Дом кіно, які мы бяздарна прагледзелі і які нам патрэбны для таго, каб быць сапраўдным культурным цэнтрам рэспубліканскага значэння, дзе б БСК мог выконваць свае статутныя абавязкі па прапагандзе кінематографа наогул і беларускага — у прыватнасці.

У сувязі з гэтым відавочны раскол наўрад ці будзе спрыяць дасягненню такой мэты. БСК разбураўся доўгія гады і працягвае разбурацца намаганнямі некаторых "заслужаных" і нават "народных" кінематаграфістаў, якія спрабуюць ператварыць яго ці то ў палітычную партыю, ці то ў камунальную кватэру для звядзення асабістых рахункаў з чыноўнікамі, ці то проста жадаюць "каламуціць ваду", дзе кепска бачны сапраўдны твар "добразычліўцаў".

Вось на "каламутную ваду" мне хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу.

Заўважце, кожная ініцыятыва пачынаецца з дэкларацый, прасякнутых высакароднымі мэтамі і клопатам пра беларускі кінематограф. Але прыгледзьцеся і вы ўбачыце, што за гэтым часцей за ўсё стаяць меркантыльныя інтарэсы асобных фізічных асобаў, якія пастаянна паўтараюць, што Саюз павінен ім дапамагаць, але самі ўзамен нічога не прапаноўваюць. Ці не цынічна гэта?

Бо пакутуюць ад гэтага ўсе астатнія кінематаграфісты і ўвесь беларускі кінематограф цалкам, той самы, пра які так "турбуюцца" гэтыя асобы.

Згодна са службовым абавязкам мне давялося ўважліва вывучыць дзейнасць нашых структурных падраздзяленняў, інакш кажучы — студый. За малым выключэннем яны дэкларатыўныя паводле сутнасці і паразітычныя паводле спосабу існавання. З некаторымі з іх мы ўжо развіталіся. Мера не папулярная, але вымушаная.

Займацца выкалупліваннем парушынак з вока, не заўважаючы там цагліны, — гэта стратэгічная слепата.

Зразумела, што асноўны клопат БСК павінен быць скіраваны на стварэнне кінаіндустрыі, што ўключала б у сябе ўсе асноўныя часткі і асабліва — пракат.

Дарэчы ўзгадаць, што раней вытворчасць кінафільмаў фінансавалася з пракату, а не з бюджэту, як сёння.

БСК выступіў з ініцыятывай стварэння такой жыццяздольнай кінаіндустрыі, прыняцця Закону аб кіно. Адміністрацыі Прэзідэнта быў прапанаваны праект такой рэарганізацыі, але з розных прычын мы не здолелі давесці справу да выніку, і гэта застанецца галоўнай задачай БСК — стварэнне ў рэспубліцы кінаіндустрыі, здольнай вырабляць фільмы, якія б прыносілі прыбытак у казну, а не былі ўтрыманцамі ў дзяржавы.

У сувязі з гэтым мяркую, што стварэнне яшчэ аднаго саюза — гэта крок да бездані.

Таму напярэдадні чарговага з'езда кінематаграфістаў рэспублікі я звяртаюся да ўсіх яго сяброў быць разважлівымі, адмовіцца ад уласных амбіцый у імя нашых агульных інтарэсаў і сапраўды паклапаціцца пра беларускі кінематограф.

**Ігар ВОЛЧАК, старшыня праўлення БСК**
**19 кастрычніка 1998 г.**

**P.S.** Некалькі слоў пра некаторыя сродкі масавай інфармацыі. На жаль, многія з іх і нават такое, здавалася б, паважнае выданне, як "Деловая газета", зрабіліся трыбунай для амбіцыйных людзей, друкуючы недакладную інфармацыю, робячы такім чынам маральную шкоду таму альбо іншаму суб'екту і скатваючыся да ўзроўню звычайнай бульварнай газеткі.

А шкада.



## ФІЛЬМ ЗАНУСІ ПАВОДЛЕ ДРАМЫ КАРАЛЯ ВАЙТЫЛЫ Ў "ПІЯНЕРЫ"

У культурным жыцці сталіцы — падзея. Па запрашэнні Польскага Інстытута ў Мінск прыехаў сусветна вядомы кінематаграфіст Кшыштаф Занусі. Акрамя кінапрац, Занусі паставіў шэраг тэатральных спектакляў у Польшчы, Германіі, Італіі, Францыі, Расіі, Швейцарыі.

У кінатэатры "Піянер" 21 кастрычніка адбыўся адзіны сеанс стужкі "Брат нашага бога" па сцэнарыю Караля Вайтылы.

Нагадаем прызавыя карціны Кшыштафа Занусі:

1971 год — "За сцяной" — галоўны прыз МКФ у Сан-Рэма;

1973 год — "Ілюмінацыя" — галоўны прыз і прэмія ФИПРЕССИ ў Лакарна;

1980 год — "Канстанта" — прэмія МКФ ў Кане;

1981 год — "Імператыў" — прэмія ў Венецыі;

1984 год — "Год спакойнага сонца" — галоўны прыз у Венецыі.

**Наш кар.**
**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

# ВОСЕНЬ... ЧАС "ЛІСТАПАДА"

***З 22 па 28 лістапада ў Мінску пройдзе юбілейны, V Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-98". Гэтага свята чакалі не толькі кінематаграфісты, але і ўсе паклоннікі кіно. На ўрачыстасць у сталіцу Беларусі завітаюць вядомыя рэжысёры і акцёры, адбудуцца паказы новых фільмаў і творчыя сустрэчы з гледачамі. І зноў сярод арганізатараў выступае дырэктар — Валянціна Аляксееўна СЦЯПАНАВА. Пасля першай прэс-канферэнцыі, якая адбылася 20 кастрычніка ў Нацыянальным прэс-цэнтры, нашы карэспандэнты задалі дырэктару "Лістапада-98" некалькі пытанняў.***

**— Валянціна Аляксееўна, пасля завяршэння "Лістапада-97" ці планавалі вы праводзіць фестываль у 98-м годзе?**

— Планавала. Але ўзніклі праблемы з Беларускім Саюзам кінематаграфістаў, які патрабаваў немалыя для нас грошы за арэнду памяшкання, дзе праходзіла падрыхтоўка "Лістапада". Я была вымушана адтуль звольніцца. Каманда фестывалю зараз працуе ў адным з кабінетаў "Беларусьфільма". "Лістапад-98" адбудзецца сёлета пры падтрымцы Міністэрства культуры. Дарэчы, гэта добрая традыцыя — дапамога дзяржаўнай установы. Таксама заснавальнікамі з'яўляюцца Мінскі гарвыканкам, Дзяржаўны камітэт Расійскай Федэрацыі па кінематаграфіі, Дзяржаўная тэлерадыёкампанія РБ, Беларускі Саюз кінематаграфістаў пры ўдзеле Савета па культурным супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД, Інстытута кіравання і прадпрымальніцтва, нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм".

**— Як праходзіў сёлета адбор карцін для ўдзелу ў фестывалі?**

— Як вы ведаеце, асаблівасцю нашага фестывалю з'яўляецца тое, што яго праграму складаюць толькі тыя стужкі, якія ўжо ўдзельнічалі ў іншых фестывалях, атрымалі прызы або сталі папулярнымі ў гледачоў. Наш прэзідэнт кінафоруму Расціслаў Янкоўскі бывае на розных міжнародных фестывалях і адзначае вылучаныя журы карціны. Затым я еду ў Маскву, дамаўляюся з партнёрамі. Вельмі добрыя адносіны склаліся ў нас са студыяй "Ленфільм". Яна адна з самых актыўных на "Лістападзе" і сёлета прадставіць тры карціны для мінчукоў.

Спіс фільмаў быў вельмі вялікі, было з чаго выбіраць. Вы ўбачыце толькі самае вартае.

**— Ці атрымлівалі вы ўжо ад каго-небудзь адмовы ад удзелу?**

— Мы разаслалі факсы-запрашэнні ва ўсе краіны-ўдзельніцы, і пакуль адмоў не было. Але не ўсе яшчэ пацвердзілі свой удзел. Да прыкладу, з Расіі будуць "Сачыненне да Дня Перамогі" Сяргея Урсуляка, "Дзень поўні" Карэна Шахназарава, "Му-му" Юрыя Грымава. З Літвы — "Месячная Літва" Лукшаса, з Латвіі — "Жорны лёсу" Стрэйч, Казахстан прывязе "Омпа" С.Нарымбетава. Усяго ў афішы будзе шаснаццаць карцін.

**— Беларусь прадстаўляе толькі адна стужка...**

— Гэта традыцыя. Штогод "Беларусьфільм" дае адну карціну. Сёлета — фільм "Забіць прытворшчыка" Вольгі Марчанкавай.

**— Пасля завяршэння чарговага фестывалю вы падводзіце вынікі і абагульняеце недахопы і ўдачы...**

— Пасля правядзення фестывалю мы заўсёды арганізуем прэс-канферэнцыю, потым — пасяджэнне аргкамітэта, дзе абмяркоўваем розныя праблемы. Заўсёды ёсць недахопы. Калі шчыра, дык штосьці атрымліваецца, штосьці не. Я сама ўсё добра бачу і разумею. Узнікаюць новыя ідэі, іх шмат. У нашай складанай сітуацыі бывае вельмі цяжка ажыццявіць іх. Але ў нас заўсёды ёсць перамены. Наш фестываль адрозніваецца ад іншых тым, што ён ствараецца больш не для кінематаграфістаў, а для гледачоў. Аднойчы пасля фільма "Час танцора" Вадзіма Абдрашытава публіка не хацела пакідаць залу, і выйшаў рэжысёр, каб абмяняцца думкамі з гледачамі. Таму мы плануем сустрэчы пасля дэманстрацыі фільмаў.



**— Сутыкаючыся з праблемамі, арганізацыйнымі цяжкасцямі, вы не думалі больш не брацца за гэтую справу?**

— Сёлета ў мяне ўзнікла такое жаданне. А тым больш, што я маю асноўнае месца працы. Я намеснік прарэктара па выхаваўчай рабоце ў Інстытуце кіравання і прадпрымальніцтва. Але вельмі люблю "Лістапад" і глыбока паважаю яго прэзідэнта Расціслава Янкоўскага. Мы зноў з камандай студэнтаў БДУ рыхтуем фестываль.

**— Каго плануеце запрасіць у госці?**

— Як заўсёды, будуць аўтары прадстаўленых карцін. Таксама абяцалі прыехаць М.Бурляеў, браты Янкоўскія, М.Рудзінштэйн, С.Гаварухін, Л.Шукшына, С.Макавецкі, С.Міхайлаў і іншыя. Пройдуць творчыя сустрэчы.

**— А якім будзе сёлета журы?**

— Па традыцыі фільмы ацэняць тры склады журы: журы кінематаграфістаў, журы кінапрэсы і журы гледачоў, якое фармуецца шляхам раздачы апытальных лістоў. Яно і прысудзіць аднаму з фільмаў галоўны прыз — прыз глядацкіх сімпатый. Таксама будуць прызы за лепшую рэжысуру і лепшую акцёрскую работу, спецыяльныя дыпломы.

**— У Брэсце ўпершыню адбудзецца кінапаказ "Рэха фестывалю". Як узнікла такая ідэя?**

— Я была дырэктарам І Нацыянальнага беларускага кінафестывалю "Крышталёвы бусел", які прайшоў вельмі ўдала ў Брэсце. Мяне папрасілі прадставіць там дзве-тры карціны з "Лістапада-98". І гэта яшчэ не ўсё. У рамках фестывалю адбудзецца рэтраспектыва фільмаў — лаўрэатаў "Лістапада" па Мінскай вобласці, у кінатэатрах сталіцы пройдзе паказ стужак маладых кінематаграфістаў Беларусі, а таксама фільмаў-прызёраў міжнародных фестываляў.

**— У якіх кінатэатрах мінскія гледачы ўбачаць фестывальныя фільмы?**

— У "Кастрычніку", "Цэнтральным" і "Перамозе".

**— А што наконт кошту квіткоў?**

— Як заўсёды, яны будуць даступнымі для гледачоў, ва ўсялякім разе, ніжэй за кошт квіткоў на "Тытанік". Поўныя залы мінулых фестываляў паказалі, што "Лістапад" любяць і гледачы, і ўдзельнікі.

**Ганна ВАШЧЫЛА,**
**Іна РАДЗЬКО**
**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА**



## ВІНШУЕМ!

*22 кастрычніка знакамітаму кінарэжысёру, народнаму артысту Беларусі Ігару Дабралюбаву — 60! Зычым добрага здароўя, натхнення і творчага плёну!*

# “ПРА ШТО” КІНО УЛАДЗІМІРА АРЛОВА?



***Задаў мне задачку Уладзімір Аляксандравіч... У чым сакрэт ягонага аўтарскага кінематографа, такога рознааблічнага і шматпланавага? Так проста і не адкажаш... Можа, ён сам распавядзе пра гэта? Хаця кінастужкі спачатку трэба глядзець...***

***... Мы вучыліся разам, у адной школе ў Гродне. Было гэта — цяжка сабе ўявіць — больш за сорак гадоў таму! Праўда, Валодзя Арлоў быў старэйшы за мяне на год. У далёкім, як міраж, пяцьдзясят шостым у гэтай легендарнай 7-й школе, што месцілася па вуліцы Кірава, ён стварыў (магчыма, упершыню на Гродзеншчыне) джаз-аркестр, у якім я, дарэчы, некалькі разоў выступаў у якасці саліста. Валодзю ў школе ўсе — і настаўнікі, і вучні — паважалі за ягоную неўтаймаванасць, неспакойную фантазію, шчодрую дабрыню. А калі ён зняўся ў эпізадычнай ролі кайзераўскага салдата ў фільме Льва Голуба “Міколка-паравоз” (сцэна здымалася на пероне чыгуначнага вакзала ў Гродне), аўтарытэт ягоны ў нашых, хлапчуковых вачах наогул узняўся да нябёсаў... Потым шляхі-дарогі нашыя разышліся на доўгія гады. Адышлі эпохі Хрушчова, Брэжнева, Гарбачова. І, нарэшце, мы, ужо не вельмі маладыя, якія тое-сёе ўжо пабачылі ў жыцці, сустрэліся ў Мінску. Пагутарылі. Узгадалі пра школьных сяброў-таварышаў. Тых, каго лёс раскідаў па свеце, і тых, каго знесла ў вечнасць лодка Харона. І — зноў разышліся. Потым была невялікая сустрэча ў Доме афіцэраў на пахаванні Віктара Турава...***

***Тады я падумаў: нядобра вось так проста “згубіцца”. Ці не лепш, пакуль мы жывыя-здаровыя, зірнуць больш уважліва адзін аднаму ў душы? Якімі мы былі калісьці, і што з намі зрабілася? Ці знайшлі мы сваю “сінюю птушку” альбо так і блукаем вечнымі вандроўнікамі па лабірынтах жыцця?***

**— Скажы, Валодзя, куды ты знік пасля школы?**

— Нікуды не знікаў. Паехаў у Мінск, два гады адпрацаваў на “Беларусьфільме”. Быў асістэнтам рэжысёра ў Льва Голуба ў карцінах “Міколка-паравоз” і “Дзяўчынка шукае бацьку” і ў Сяргея Сплашнова ў “Нашых суседзях”. У 59-м паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут, на рэжысёрскі факультэт... Пасля першага курса паўгода працаваў рэжысёрам-практыкантам у Уладзіміра Корш-Сабліна на карцінах “Чырвонае лісце” і “Першыя выпрабаванні” паводле коласаўскай трылогіі “На ростанях”: датэрмінова здаў іспыты ў ВНУ і мне дазволілі на некаторы час спазніцца на заняткі...

**— Я ведаю, ты паспеў папрацаваць і ў ТЮГу?**

— Так, там я паставіў дзве п'есы — “Паркалёвы баль” і “Чырвоны Каптурык”. Але скажу шчыра — да ўдач іх прылічыць цяжка. Зразумеў — гэта не маё. І цалкам паглыбіўся ў кіно, дакладней, у тэлебачанне.

**— Як гэта адбылося?**

— Вельмі проста. З тэлебачання на мяне прыйшла персанальная заяўка, мяне ўжо там ведалі — яшчэ студэнтам я пісаў тое-сёе для кінарэдакцыі. Не паверыш, але з 5 сакавіка 1963 года ў маёй працоўнай кніжцы толькі адзін запіс: праца на Дзяржтэлерадыё. Вось і ўся мая біяграфія.

**— У якіх кінажанрах ты працаваў у якасці рэжысёра?**

— Здымаў музычныя, дакументальныя, ігравыя карціны.

**— Пачнем з музычных...**

— Усе вядомыя эстрадныя і народныя калектывы “прайшлі” праз маю камеру. Зняў першы фільм пра “Песняроў”. Калі памятаеш, дзеянне там адбываецца на “трох паверхах” своеасаблівага тэатра-батлейкі. У 76-м зрабіў фільм пра “Верасоў”, потым сюжэт пра “Сяброў” — “Ты адно каханне”. Стварыў некалькі праграм пра Дзяржаўны народны хор, у тым ліку пра Генадзя Цітовіча і Міхася Дрынеўскага; здымаў ансамблі “Свята”, “Фэст”...

**— А ў дакументальным кіно?**

— У маім творчым актыве шмат праблемных карцін, фільмаў-роздумаў пра чалавека і ягоны час. Атрымаўся нібы разгорнуты калектыўны партрэт сучасніка. За 15 гадоў зняў восем карцін пра маіх сяброў...

**— І хто ж яны, гэтыя твае сябры, якія “ўвайшлі” ў твой кінематограф?**

— Іх у мяне шмат. Гэта і генеральны дырэктар трыкатажнага аб'яднання “Алеся” Леанід Сакаленка, і калгасны старшыня Васіль Сільвановіч, і акцёр Генадзь Давыдзька, і мастак Алесь Марачкін, і прафесар-анколаг Галіна Муравецкая, і журналісты Анатоль Казловіч і Валерый Драздоў, і цыркавы клоун Фёдар Гулевіч... Зрабіў карціны і пра касманаўта Уладзіміра Кавалёнка, і пра паэта Генадзя Бураўкіна...

**— Я нядаўна глядзеў тваю работу пра Бураўкіна. Фільм, як кажуць, ад душы. Шчодрая паэзія, багаты відэарад. Цудоўна чытае свае вершы Генадзь Мікалаевіч. Добры фільм... Ну, а цяпер давай звернемся да тваіх ігравых карцін...**

— Больш за 10 гадоў таму паставіў дзве серыі “Камедыянта” паводле твораў Алеся Асташонка. Гэта такі своеасаблівы музычны балаган, які расказвае пра дзве гадзіны з жыцця Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пра тое, як пасля доўгай, таямнічай адсутнасці ён у масцы вяртаецца на Каляды ў свой родны дом... Наогул, здаецца, атрымалася цікавая рэч...

**— А “Нататкі Самсона Самасуя”?**

— Гэты фільм, таксама двухсерыйны, я зрабіў паводле сатырычнага рамана Андрэя Мрыя. Гэта праблемная, у нечым гратэскавая карціна пра мешчаніна-выскачку, які чымсьці нагадвае “профіль” брэхтавага Артура Уі. Сцэнарый напісаў мой сябар і паплечнік, чалавек высокай культуры і душэўнай шчодрасці Уладзімір Халіп...

**— У Томаса Мана сказана: “Ты вось стаіш локаць у локаць са мной, але вакол цябе твой асаблівы свет, сярэдзіна якога не я, а ты. Затое я — сярэдзіна майго свету”. Распавядзі, як ты ствараў разам з Уладзімірам Трафімавічам Халіпам гэты “свой” свет у грандыёзным тэлесерыяле “Гэты пракляты ўтульны дом”, пра які сёння шмат гавораць.**

— Уяві сабе, усё пачалося... з зайздрасці. Аднойчы падумаў: чаму ж так? Мільёны людзей прагна глядзяць “мыльныя оперы”, мексіканскія, бразільскія і іншыя серыялы. Кепскія артысты, сцэнары, якія не варта нават абмяркоўваць, “кардонныя”, штучныя страсці і калізіі. Аўтары нават даходзяць да такога нахабства, што, напрыклад, у апошняй серыі фільма “Багатыя таксама плачуць” гераіня Марыяна іграе ў навушніках!

**— У гэтым сэнсе для цябе творчай “планкай” з'яўляецца...**

— “Сага пра Фарсайтаў”, “Семнаццаць імгненняў...”, наша серыйная стужка “Уся каралеўская раць”, у стварэнні якой я, дарэчы, браў удзел... Дык вось, у мяне з'явілася задума: зрабіць свой праект беларускага серыяла, так бы мовіць, антыпод тым, “мыльным”... Я звярнуўся да Халіпа, кажу яму: “Валодзя, магчыма, з'явіцца такі праект. Ці будзеш ты да яго гатовы?” Праз некаторы час ён прапанаваў мне пяць варыянтаў сцэнарыя ў якасці асновы патэнцыйных праектаў: два мы адразу адсеклі, а тры — абмеркавалі. Спыніліся на адным. У падмурак праекта быў пакладзены невялікі раман польскага пісьменніка Стэфана Жэромскага “Верная рака”. Аднак Уладзімір Трафімавіч добра “папрацаваў” над гэтым раманам: развіў ягоную фабулу і сюжэтыку, дадаў шмат новых персанажаў і эпізодаў, іншымі словамі, маленькі раман зрабіўся вялікім, “кінематаграфічным”. Тут перапляліся шмат рэмінісцэнцый — і дэтэктыўных, і любоўных, і гістарычных, і містычных, і батальных.

**— І Дзяржтэлерадыё пайшло вам насустрач?**

— Безумоўна, даваліся пераадолець дзесяткі розных арганізацыйных бар'ераў і перашкод. Але ў выніку ў снежні 93-га Вярхоўны Савет Беларусі зацвердзіў бюджэт тэлерадыёкампаніі, дзе асобным радком было вызначана фінансаванне нашага праекта. А адна фірма дапамагла нам наяўнымі грашыма, што былі патрэбны для аплаты працы акцёраў... Акрамя гэтага, дапамаглі нам і іншыя добрыя людзі, сярод якіх асабліва хацелася б адзначыць загадчыка планава-фінансавага аддзела Міністэрства інфармацыі Анатоля Мікалаевіча Вашкевіча і дырэктара тэлецэнтра Георгія Дзмітрыевіча Чубата...

**— Распавядзі, як ты працаваў з акцёрамі?**

— З акцёрскім кадэктывам мне пашчасціла: здымаліся такія нашы беларускія “зоркі”, як Віктар Тарасаў, Расціслаў Янкоўскі, Юрый Ступакоў, Валерый Бандарэнка, Уладзімір Шэлестаў, а таксама вялікі літовец Данатас Баніёніс. У галоўнай ролі знялася Алена Мазгова, таленавітая актрыса. Больш складана мне было адшукаць акцёра на галоўную мужчынскую ролю — ролю параненага князя.

**— І як ты “натрапіў” на Віталя Радзько?**

— Калі да мяне пачалі прыходзіць маладыя акцёры, каб “паспрабавацца” на гэтую ролю, я на кожнага з іх у думках надзяваў... кепку. Ты ведаеш, я сам пастаянна нашу гэты галаўны ўбор. Дык вось, калі кепка пасавала да твару акцёра, значыць, ён мне не падыходзіць, бо, паводле сцэнарыя, герой павінен быць чыстакроўным шляхціцам! Кепачка Віталю не падышла... І ён цудоўна выканаў “дваранскую” ролю...

**— Як ты пазнаёміўся з Данатасам Баніёнісам? Праз Віктара Турава?**

— Не. Спачатку дырэктарам карціны ў мяне быў Лёня Шчаглоў, на жаль, цяпер ужо нябожчык. І вось ён кажа мне: “Валодзя, хочаш, у цябе будзе здымацца Баніёніс?” — “Безумоўна, хачу!” — “Ён прыязджае ў Мінск на агучванне тураўскага “Шляхціца Завальні”, і я яго да цябе прывяду...” І вось у кастрычніку 93-га (сцэнарый яшчэ не быў цалкам напісаны, і ролі для Баніёніса там не было) прыйшлі да мяне Данатас Юозавіч з жонкай Онай, Лёня Шчаглоў, Валодзя Халіп з жонкай. І пачалася доўгая размова. Вельмі сяброўская, цёплая, душэўная. Выпілі. Памянулі сына Баніёнісаў, які месяц таму заўчасна пайшоў з жыцця... Карацей, вечар быў вельмі насычаны. І Халіп прыдумаў Данатасу выдатную ролю для тых трох серый, дзе акцёр потым здымаўся.

**— Што гэта была за роля?**

— Справа ў тым, што паўстанне Кастуся Каліноўскага не было народным паўстаннем у нашым звыклым, школьна-міфалагічным разуменні. Гэта быў рух маладой шляхты, якому няўдача была наканавана з самага пачатку. І многія яго кіраўнікі, калі зразумелі гэта, з'ехалі ў Жэневу, Парыж, Лондан, кінуўшы рамантыкаў на волю лёсу пад царскія гарматы. А Баніёніс іграе аднаго з кіраўнікоў паўстання, які, ведаючы, што ўсе яны загінуць, усё ж застаецца да канца са сваімі паплечнікамі. Каб яны канчаткова не расчараваліся ў сваіх ідэалах...

**— Колькі часу ішлі здымкі серыяла?**

— Шаснаццаць месяцаў, у асноўным, у Шчорсах, Любчы, Наваградку. Знялі 33 серыі працягласцю 28 гадзін 7 хвілін. Гэта аб'ём прыкладна дваццаці поўнаметражных мастацкіх стужак.

**— Гэта значыць, кожныя два месяцы вы “выдавалі”, так бы мовіць, поўнаметражны фільм? Неверагодна!**

— Атрымлівалася, што так...

**— Калі адбудзецца прэм'ера?**

— У прынцыпе, прэм'ера ўжо адбылася — 25 траўня ў кінатэатры “Масква”. Праўда, для прэм'еры я прадставіў спецыяльную касету з запісам усяго на паўтары гадзіны. Прысутнічаў і Баніёніс. Рэцэнзіі былі розныя, але, пераважна, станоўчыя. Што да вялікай прэм'еры, дык хацелася б, каб яна адбылася ў наступным годзе.

**— А як успрыняў карціну Баніёніс?**

— Перад тым, як адказаць на тваё пытанне, заўважу наступнае. Я запісаў для яго касету з тымі трыма серыямі (23 — 25), дзе ён быў заняты, і адаслаў яе ў Панявежыс. Разам з рэцэнзіямі. І вось на пачатку ліпеня я атрымаў ад яго ліст, па якім ты можаш меркаваць аб яго стаўленні да мяне і да карціны...

З дазволу Валодзі я публікую тут фрагменты з гэтага ліста: “... *Мне было вельмі прыемна чытаць твой ліст і добрыя водгукі ў друку. Вельмі рады, што так добра прайшла прэзентацыя нашага фільма. Я з вялікім задавальненнем узгадваю нашы сустрэчы з табой, нашу працу... Праца з табой — сапраўднае задавальненне, гэта пачуццё творчасці! Гэтаксама і праца з маімі калегамі... Я прагледзеў касету, якую ты мне запісаў. Фільм мне здаўся вельмі цікавым. Мне здаецца, называць карціну “мыльнай операй” не адпавядае жанру, і было б памылкай. Гэта добры мастацкі фільм, з сур'ёзнай тэматыкай, моцнымі акцёрскімі работамі, з добрай драматургіяй. Я спадзяюся, што глядач так і ўспрыме гэты фільм... Ты — добры наш сябар і цудоўны чалавек... Она* (жонка Баніёніса. — **Б.К.**) *часта ўзгадвае цябе і кажа: “Валодзя — цудоўны мастак, выдатны чалавек і ў яго добрае сэрца!” Я з ёй цалкам згодны! Хай Бог дае табе шчасця!*”.

Мяркую, каментары тут не патрэбныя...

**— Калі ты робіш фільм, ці спрабуеш “схаваць” сябе як аўтар — рэжысёр-пастаноўшчык?**

— Марная справа. Пра гэта вершамі сказаў яшчэ Уітман. І не выпадкова ж адбываецца такая пераклічка паміж паэтам Рыгорам Наракацi, які жыў амаль тысячу гадоў таму, і Уолтам Уітменам, паэтам мінулага стагоддзя. Наракацi пісаў: “І кніга гэтая мне замяняе цела, і слова гэтае — замест душы маёй”. А Уітмен: “Дакраніся да кнігі, камерада, і прачытаеш чалавека”. Вось і хочацца, каб і кінематограф быў на такім узроўні. Бо чым больш асабовым ён будзе, тым больш выразным зробіцца. Зразумела я выказваюся?

**— І ўсё ж. Што для цябе самае важнае ў кінематаграфічнай прафесіі?**

— Каб мастак валодаў сваім светабачаннем і арыгінальным кінамысленнем і быў здольны глыбока адчуваць пульс часу. Цяпер, на жаль, многія навучыліся рабіць “бойкія” карціны, — гэтаксама, як графаманы рыфмуюць словы. Але ж гэта яшчэ не паэзія! Лічу, што трэба ўсяляк падтрымліваць тых рэжысёраў, якія, перадусім, клапоцяцца пра гледача. Хай здымаюцца фільмы розныя, у тым ліку і “элітарныя”, разлічаныя на пэўную аўдыторыю. Але калі штогод у нас не будзе пракатных лідэраў, мы не здолеем выклікаць у гледачоў трывалае пачуццё даверу да айчыннага кіно.

**— Дык у чым жа справа? Хіба ў нас няма добрых рэжысёраў, аператараў, акцёраў, сцэнографаў, сцэнарыстаў?**

— Нашым “кінамэтрам” трэба, перадусім, думаць пра тых, хто глядзіць нашыя стужкі, а не пра прэміі ды званні, не пра тое, хто “больш галоўны” ў мастацтве, не пра сябе, “геніяльнага і непаўторнага”. Славалюбства, нездаровае спаборніцтва, эгацэнтрызм, дробязныя інтарэсы раз'ядаюць, нібыта іржа, душу творцы. Менавіта з гэтай прычыны мы страцілі на нашым кінематаграфічным небасхіле не адзін дзесятак талентаў. Карацей, самае важнае ў мастацтве — гармонія. Гармонія ў асобах, якія робяць гэтае мастацтва. Гармонія ў чалавечых стасунках. У павазе адзін да аднаго. Але светаадчуванне ў мастака павінна быць сваё, асабістае. І толькі сваё. Асацыятыўны “механізм” мастака непаўторны, як адбіткі пальцаў. Я — за такое кінамастацтва...

Так, мае рацыю мой суразмоўца, гармонія — гэта і ёсць вычарпальнае азначэнне кінематаграфічнага свету. Пры тым, што Уладзімір Арлоў зусім не дабрадушны і спакойны. Наадварот, у сваёй справе ён бывае і жорсткім, і незадаволеным сабой і калектывам, іншы раз можа ўспыхнуць і “выбухнуць”. Але пра што б ён ні расказваў, ягоныя кінанавелы і кінааповесці сагрэтыя ягоным удзелам у кожным лёсе, што выведзены на блакітны экран. Па сутнасці, усе фільмы Арлова прасякнутыя філасофіяй любові. Любові да жыцця. Прыняццем жыцця. Без блокаўскага “звона шчыта”. Хутчэй, са старажытнай біблейскай мудрасцю: “у вялікіх ведах — вялікі смутак”...

*... Сядзім у нашай рэдакцыі. Валодзя прынёс стос фатаграфій. Глядзім. Узгадваем. Вось Валодзю семнаццаць гадоў. У шэрай кепачцы. Здымак зроблены ў гродзенскім скверы на вуліцы Ажэшка. Прыгожы, малады — усё яшчэ наперадзе... Вось групавы школьны здымак — знайшоў і сябе. А вось — валодзевыя фотакарткі праз гады. Таксама ў кепцы, толькі клятчастай. На адной — усмешлівы, з хітраватым прыжмураным вачыма. На другой — падчас здымак фільма: вусны шчыльна сціснуты, нечым вельмі незадаволены... А вось — з Баніёнісам... І зноў старыя фотакарткі...*

*А можа, нам яшчэ рана жыць успамінамі?..*

**Барыс КРЭПАК**

## ВІНШУЕМ МАСТАКОЎ — ЮБІЛЯРАЎ КАСТРЫЧНІКА:

З 50-годдзем
Сямёна ДАМАРАДА
Алега СКАВАРОДКУ
Івана РАМАШОВА
Уладзіміра ТКАЧЭНКУ
З 60-годдзем
Уладзіміра КАРОТКАГА
Дзмітрыя ПАПОВА
З 70-годдзем
Івана ХАРЛАМАВА,

а таксама непараўнальную Нэлу ШЧАСНУЮ з Днём нараджэння 25 кастрычніка!

# НОВЫ АЛЬБОМ ПРА ТВОРЧАСЦЬ ЛЕАНІДА ШЧАМЯЛЁВА

Сустрэча з новым альбомам пра мастацтва заўсёды поўніцца чаканнем незвычайнага. Звычайна чытач у гэтых выданнях шукае выпадку не толькі зноў убачыць творы вядомых мастакоў, але спадзяецца таксама знайсці арыгінальныя і свежыя меркаванні ў аўтарскім тэксце...

Цяпер кнігі па мастацтве ацэньваюцца не толькі па паліграфічных вартасцях. Цікавы, нешаблонны падыход да матэрыялу, глыбокі аналіз, своеасаблівасць аспектаў вывучэння мастацкай творчасці — усе гэтыя складнікі вызначаюць поспех выдання разам з якасцю і колькасцю ілюстрацый.

Альбом "Леанід Шчамялёў", што нядаўна выдадзены выдавецтвам "Хелман" (укладальнік і галоўны рэдактар — Аляксандр Піліпко, уступнае слова і "Размова ў майстэрні мастака" Сяргея Петэрсана, спонсар выдання — Аляксандр Ізотаў), цалкам адпавядае гэтым патрабаванням.

Разлічаны на шырокія колы чытачоў, ён разам з тым выкананы вельмі прафесійна. Сістэматызацыя і групоўка выяўленчага матэрыялу падпарадкаваныя задачы раскрыць у творчасці Л.Шчамялёва не жывы, сучасны змест, паказаць тое высокае майстэрства, якое закладзена ў кожнае палатно майстра.

Творы, рэпрадуцыраваныя ў альбоме (а іх 110), ахопліваюць, у асноўным, апошні перыяд творчасці мастака (1993 —1997 гг.), у асобных выпадках — ранейшыя, менш вядомыя гледачу палотны. Яны расkладзеныя не па асобных блоках, звязаных тэматычна альбо па жанрах, і нават не паводле храналогіі, што, на мой погляд, дае больш жывое візуальнае ўяўленне пра шырокую разнастайнасць жывапісна-пластычных знаходак мастака, але аб'яднаныя адной рысай — шчамялёўскім, вострым пранікненнем у "свой свет" вобразаў карціны, пейзажа, партрэта альбо нацюрморта.

Агульнаму цэласнаму ўражанню дапамагае і блок дакументальных фатаграфій Л.Шчамялёва, пачынаючы ад ваенных, 1944 года, і скончваючы 1996-м. І яшчэ. На маю думку, зроблены ўдалы выбар мастацтвазнаўчага тэкставага жанру: замест звыклага ўступнага артыкула альбом пачынаецца дыялогам С.Петэрсана з мастаком, дзе ў жывой форме адлюстраваны ўсе найважнейшыя вехі творчасці аўтара "Майго нараджэння", ягоныя развагі і думкі пра мастацтва, чалавека, грамадства.

Альбом выдадзены на беларускай, рускай і англійскай мовах і дапоўнены спісам асноўных выстаў, у якіх удзельнічаў мастак, у тым ліку і ўсіх узтырнаццаці (!) персанальных. Словам, цудоўны падарунак усім тым, хто любіць сапраўдны жывапіс. Выданне можна набыць у карціннай галерэі "Верхні горад", у галерэі "Мастацтва" і ў Беларускім Саюзе мастакоў. Купіце — не пашкадуеце!



Э.Астаф'еў. "Алена". Бронза.

# ...І ВЕЧНАЕ ЗЛІВАЕЦЦА З ЧАСОВЫМ

Ідэя арганізацыі гэтай выставы ў Гомелі з'явілася ў Эдуарда Астаф'ева летась. Да гэтага скульптар ніколі не экспанаваў тут свае творы. Аднак у горадзе ў яго шмат сяброў, сярод якіх і старшыня аблвыканкама Мікалай Вайцянкоў. Менавіта ён, тагачасны пасол Рэспублікі Беларусь у Чэхіі, вельмі дапамог Э.Астаф'еву і Ю.Казакову ў эпапеі стварэння іхняга помніка Ф.Скарыне для Прагі...

У экспазіцыю, якая зрабілася нібыта часткай выставы твораў мастакоў Гомельшчыны, увайшлі 43 скульптуры Э.Астаф'ева, у асноўным, камернага характару.

У прасторы ягонай пластыкі плаўна пераплякаюць адно ў аднаго і філасофскія мроі ("Непарыўныя сувязі", "Час, прастора, бясконцасць"), і рэальныя побытавыя сцэны ("Лазня", "Шпацыр", "Вясновая раніца"), і настальгічныя моманты быцця ("Успаміны пра Італію"), і проста прыгожыя ню, абласканыя трапяткою рукой скульптара ("Таямнічы сон", "Торс", "Танец сонца"). Узнікае адзіны, жывы, пульсуючы, зіхаткі свет скульптур. Тыя светы, што мы бачым у Астаф'ева, створаны, у асноўным, ягоным уяўленнем. Яму не патрэбна праца з натуры, ён толькі адштурхоўваецца ад успамінаў пра яе. І вечнае зліваецца з часовым, фрагментарнасць з універсальным, і з'яўляецца цэласнасць. Цэласнасць — ключавое слова, вызначальнае для творчасці Астаф'ева, што знайшла сваю завершанасць у вобразах Ф.Скарыны і М.Багдановіча.

Скульптуры Майстра — пошукі чалавека, які вядзе вечны дыялог са светам...

# ПАЙШОЎ НАСУСТРАЧ ЗАРЫ...



І.Басаў. "Успамін". Палатно, алей.

4 кастрычніка Ізраілю Басаву споўнілася б восемдзесят гадоў. Многа гэта ці мала? Для Басава гэта мала, бо мастаком ён зрабіўся позна, упершыню выставіў свае творы ў 35 гадоў, а сябрам Саюза мастакоў стаў ва ўзросце 41 года.

Шлях у мастацтва быў у яго цяжкім. З мастацкай вучэльні яго выключылі за "касмапалітызм", у больш сталым узросце ён быў фактычна нікім не прызнаны, акрамя вузкага кола сяброў і замежных мецэнатаў.

Цяпер, праз чатыры гады пасля смерці, пра яго пішуць даволі шмат і ахвотна, называючы мастака ці то "самотным прарокам", ці то "ізгоем", ці то "геніем", "аддана падпарадкаваным ўнутранаму закліку і яшчэ закліку нябёсаў", параўноўваюць яго з Шагалам і г.д.

Усё гэта так, але і не так: гледзячы з якой дыстанцыі зірнуць. Вось ужо ўмеем мы пасля смерці мастакоў так іх заміфалагізаваць, што ад чалавека застаецца толькі схема, узведзеная ў трэцюю ступень нейкага "метафізічнага" авангарднага накірунку...

Я ведаў Басава ў лепшы, на мой погляд, перыяд творчасці — у 60-я гады. Ведаў — і ў апошні, вельмі нялёгкі перыяд ягонага жыцця. І магу сказаць упэўнена: не трэба параўноўваць яго з Шагалам, яму гэтага не трэба. Ён — зусім іншы, ён — Басаў, своеасаблівы, сумны, замкнёны ў сабе. Ён не быў філасофам у агульнапрынятым сэнсе, ён "філосаф" свайго ўласнага лёсу, сваёй душы — лёгка ранімай, безабароннай і адначасова схаванай ад чужога позірку. І адкрывалася яна, гэтая душа, толькі ў жывапісе. Дарэчы, авангардыстам ён сябе ніколі не лічыў: "Пішу, як пішацца...", і светла зайздросціў таму, як гэта добра атрымліваецца, скажам, у Шчамялёва, Кішчанкі альбо Малішэўскага...

Басаў зрабіў сваю справу. І — пайшоў. Насустрач той вечаровай зары, якую ён напісаў у сваёй апошняй чырвона-жоўта-ружовай карціне.

Вось такія думкі ўзніклі ў мяне падчас агляду выставы Ізраіля Мацвеевіча, што нядаўна прайшла ў Палацы мастацтва...

# ПАМЯТАЕМ...



Восень 98-га ледзь паспела прайсці палову свайго шляху, але ўжо бязлітасна вырвала з шэрагаў Саюза мастакоў трох нашых вядомых жывапісцаў — ветэранаў Вялікай Айчыннай — Івана Стасевіча, Іосіфа Белановіча і вось, у суботу, 17-га, Эдуарда Куфко...

Пателефанавалі з Брэста... Папрасілі напісаць некалькі слоў пра Эдуарда Станіслававіча, якога я добра ведаў. Два гады таму я апублікаваў у "К" невялікі нарыс пра выставу Майстра пад назвай "А жыццё працягваецца".

І вось — жыццё Мастака прыйшло да завяршэння... На 78-м годзе... Тужліва і сумна...

Ён быў вядомым жывапісцам, чалавекам складнага і драматычнага лёсу. Да вайны паспеў скончыць толькі два курсы Яраслаўскай мастацкай вучэльні, потым быў фронт, палон... Гітлераўскія канцлагеры... А пасля палону — вызваленне... І зноў калючы дрот, вышкі з працэктарамі, злыя сабакі — цяпер ужо ў савецкіх лагерах...

Не дзіва, што першыя буйныя палотны Эдуарда Станіслававіча, якія з'явіліся ў 50 — 60-я гады, былі прысвечаны менавіта антыфашысцкай тэме, а першы твор жывапіснага цыкла "ГУЛАГ" мы ўбачылі трошкі пазней, у сярэдзіне 60-х — "Іван Дзянісавіч". Памятаеце? Той самы абагульнены вобраз героя Аляксандра Салжаніцына, ён жа — нібыта аўтапартрэт самога мастака...

Але нягледзячы на ўсё, Эдуард Станіслававіч верыў у Чалавека і ў Прыгажосць жыцця. Пісаў светлыя партрэты, пісаў шмат пейзажаў, нацюрмортаў. Вельмі любіў кветкі. Ружы. Бэз. Хрызантэмы...

Жыццё працягваецца... У нашай памяці пра Мастака. У яго карцінах. У творчасці яго таленавітага сына — жывапісца Уладзіслава. І сам прыклад жыцця Эдуарда Станіслававіча, які знайшоў у сабе мужнасць стварыць не дзякуючы, а насуперак абставінам, нам усім неабходны, нібыта азон...



Ганна Раманоўская. "Нацюрморт". Папера, туш.



Вольга Станілевіч. "Дама на Шырак Сокак". Папера, змяшаная тэхніка.



Аляксей Верасовіч. "Пасля дажджу". Палатно, алей.

**З выставы твораў стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, якая нядаўна экспанавалася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі.**

**Аўтар "Мастыхіна" Барыс КРЭПАК**

ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# КУЛЬТУРА

*29 — 30 кастрычніка адбудзецца ўшанаванне народнага артыста Беларусі, знакамітага кампазітара Анатоля Васілевіча БАГАТЫРОВА, якому ў жніўні споўнілася 85 гадоў.*

*У канцэртнай і камернай залах Белдзяржфілармоніі прагучаць яго лепшыя творы, у Саюзе кампазітараў пройдзе канферэнцыя, прысвечаная яго творчасці і праблемам нацыянальнай кампазітарскай школы.*

*Анатоль Васілевіч не проста адзін з заснавальнікаў гэтай школы, ён — жывая легенда нашага мастацтва і нашай гісторыі.*

# БАГАЦЬКА — БАГАТЫР — БАГАТЫРОЎ

**— Анатоль Васілевіч! Больш за палову стагоддзя вы знаходзіцеся ў цэнтры беларускага музычнага жыцця. А ва ўласным жыццёвым і творчым вопыце што задавальняе вас больш за ўсё?**

— Больш за ўсё я задаволены сваімі вучнямі. Справа, вядома ж, не ў іх колькасці, а ў тым, што зараз яны складаюць аснову беларускай кампазітарскай школы. Генрых Вагнер, Яўген Глебаў, Андрэй Мдзівані — гэта ж усё мае выхаванцы. Але найбольш таленавітым, лічу, быў Уладзімір Солтан, які так рана пайшоў ад нас. Гэта быў талент на мяжы геніяльнасці. За сваё кароткае жыццё ён паспеў напісаць тры оперы. Гэта вельмі складаны жанр, опер у нас зараз амаль не пішуць. Мабыць, таму, што ў наш час адбываецца нейкі крызіс меладызму. А Солтан быў сапраўды цудоўным меладыстам. Яго мастацтва зыходзіла менавіта ад сэрца.

**— Але ж звычайна лічаць, што геніяльнасць адметная творчым пошукам.**

— Так, сёння кампазітары менавіта шукаюць: іншыя рэсурсы, сродкі выразнасці. А ці ёсць слухач на гэтыя знаходкі? Просты слухач ідзе туды, дзе гучыць мелодыя, больш яму зразумелая. Кампазітар, перш за ўсё, павінен разлічваць на аўдыторыю, а музыка мусіць быць больш даступнай слухачам. А інакш для каго яна пішацца? Наконт геніяльнасці... Аднойчы ў Маскве я прысутнічаў на сустрэчы з Ігарам Стравінскім. Калі яго спыталі, якіх кампазітараў ён знаходзіць геніяльнымі, ён адказаў: "Баха, Моцарта і Шумана". Не вытрымаўшы, я звярнуўся да яго: "А чаму не Бетховена?" На што ён сказаў: маўляў, той да многіх падобны. Але ж ці так вымяраецца геніяльнасць?

**— Вы згадалі Стравінскага, і я ўспрыняла гэта як уверцюру да вашых успамінаў пра найбольш памятныя сустрэчы з вядомымі людзьмі.**

— Ведаеце, мне вельмі пашанцавала ў жыцці. Я сустракаўся з вялікай колькасцю цікавых людзей. Сярод іх былі не толькі музыканты. Так, напярэдадні вайны ў Мінску гастраляваў МХАТ. Я пазнаёміўся з некаторымі яго артыстамі. А потым мы ўсе разам пехатою выходзілі з палаючага Мінска. Наступная наша сустрэча адбылася ўжо ў Свярдлоўску, дзе я працаваў у час вайны. Дарэчы, адзін з кіраўнікоў МХАТа — Уладзімір Іванавіч Неміровіч-Данчанка — збіраўся ставіць маю оперу "У пушчах Палесся", у гэтым ён нават апярэдзіў Вялікі тэатр. Але ж вайна не дазволіла гэта зрабіць. А ў 1943 годзе Неміровіч-Данчанка нечакана памёр... Як зараз памятаю яго пастаноўку п'есы Чэхава "Тры сястры", дзе ігралі Мікалай Хмялёў, Ала Тарасава і Ангеліна Сцяпанава. Тады ўся зала плакала. Зараз ужо ў тэатры не плачуць. Не ведаю, чаму: ці народ стаў нячулы, ці няма больш у нас такіх артыстаў.

**— Большасць памятных знаёмстваў адбывалася, відаць, у Маскве?**

— Сапраўды, падчас майго кіраўніцтва Саюзам кампазітараў Беларусі мы з жонкай — спявачкай Наталляй Сяргееўнай Навіцкай — дзесяць гадоў пражылі ў Маскве. Там мы пазнаёміліся, а потым вельмі блізка сябравалі з піяністам і дырыжорам Мікалаем Галавановым і спявачкай Антанінай Няждановай.

На Вялікдзень мы заўсёды бывалі ў іх. Акрамя нас, яшчэ там збіраліся Аляксей Талстой, Мяскоўскі, Пракоф'еў, Казлоўскі і іншыя. Дарэчы, аднойчы Галаванаў з Няждановай прыехалі ў Мінск, і Вялікдзень мы адзначалі ў мяне дома.

У трынаццаць гадоў мне пашчасціла сустрэцца з дзевятнаццацігадовым Дзмітрыем Шастаковічам. Адбылося гэта пасля прэм'еры яго Першай сімфоніі ў Маскве, куды я ездзіў са сваёй маці. Нас пазнаёміў тады дырыжор Мікалай Малько.

**— А з Малько вы пазнаёміліся, пэўна, на сваёй радзіме ў Віцебску?**

— Канешне! Віцебск увогуле ў 20-я гады быў сапраўдным культурным цэнтрам Беларусі. Там жылі і працавалі такія сусветна знакамітыя мастакі, як Малевіч, Марк Шагал, Пэн. Дарэчы, мой бацька быў знаёмы з бацькам Шагала, і мы сябравалі сем'ямі. А з вядомай сёння музыказнаўцай Соф'яй Хентавай мы разам вучыліся ў музычнай школе. І ўяўляеце ў каго? У пляменніцы Роберта Шумана!

**— А ваш бацька ў свой час, як я ведаю, быў знаёмы з Фёдарам Шаляпіным.**

— Так. Мой бацька быў сам з сям'і рабочых, але падчас вучобы ў Пецярбургскім універсітэце (у мяне захаваўся нават яго атэстат, падпісаны вядомым вучоным Мусіным-Пушкіным) ён падрабляў статыстам у Марыінскім тэатры. І аднойчы, падаючы Шаляпіну капялюш, нават наважыўся запрасіць яго выступіць у родным Віцебску. На што той адказаў: "Віцебск мяне не вытрымае".

**— У вас такія багатыя ўспаміны, што часам здаецца, што прозвішча Багатыроў было ўзята як псеўданім.**

— Шчыра кажучы, маё радавое прозвішча было Багацька. Потым мой прадзед вырашыў змяніць яго на Багатыр. А гэта прозвішча ўжо перайначылі на рускі лад — Багатыроў.

**— Багатыроў і Сталін — тэма, відаць, для асобнай гаворкі?**

— Чаму ж? Са Сталіным я сустракаўся некалькі разоў. Пасля пастаноўкі маёй оперы ў Маскве ён аднойчы запрасіў нас з жонкай да сябе ў ложу і размаўляў з намі каля дзвюх гадзін. Пасля мы некалькі разоў бывалі на яго прыёмах. Чэрчылю ён прадставіў мяне так: "Вось кампазітар, які піша правільную музыку". Заўважу, што сам Сталін быў не такі абыякавы да музыкі, як гэта можа падацца. Ён скончыў духоўную семінарыю, ведаў і любіў харавую музыку і царкоўныя спевы.

Вядомая пастанова ЦК заклікала нібыта ствараць чалавечую музыку, але ў той жа час ганьбіла такіх вялікіх людзей, як Шастаковіч, Пракоф'еў, Мяскоўскі — якраз тых кампазітараў, якія пісалі чалавечую музыку. І я быў справядлівы, калі адразу потым выступаў у Маскве на першым сходзе Саюза кампазітараў і назваў "Кацярыну Ізмайлаву" Шастаковіча геніяльнай операй.

*Між іншым, Анатоль Васілевіч тут крыху не дагаворвае. Бо на тым жа з'ездзе ён сказаў у сваёй прамове, што ў Беларусі кампазітараў-фармалістаў няма. Хто ведае, можа, менавіта таму ніводны наш кампазітар не пацярпеў у даваенныя гады ад рэпрэсій. Да таго ж, як вядома, за ўвесь час Багатыроў ні разу не падпісваў дакументы на арышт так званых "ворагаў народа".*

*А вось пісаць ідэалагізаваныя творы даводзілася.*

— Былі ў мяне такія творы. Праўда, сам не ведаю чаму, але не напісаў ніводнага твора, прысвечанага Сталіну. Вось Леніну — прысвячаў. Але зараз і ў ім расчараваўся. Гэта быў страшны чалавек — хаця б з-за расстрэлу царскай сям'і, наогул, расстрэлу безлічы людзей.

**— Дагэтуль мы гаварылі аб вашых сустрэчах з вядомымі і цікавымі людзьмі. Але ж вядома, што вы шмат вандравалі.**



Анатоль Багатыроў у гады студэнцтва.

**Скажыце, калі ласка, колькі слоў аб вашых сустрэчах з рознымі краінамі.**

— Мне пашанцавала, я аб'ехаў усю Еўропу, пабываў ва ўсіх яе краінах, акрамя Партугаліі. Не быў таксама ў Амерыцы (пабаяўся ляцець праз акіян). У гэтым сэнсе я заўсёды быў удзячны Ціхану Хрэннікаву за тое, што ён стварыў замежную камісію ў Саюзе кампазітараў, якая дапамагла нам убачыць шмат з таго, што для іншых убачыць было амаль немагчыма.

У Англіі мяне запрашаў застацца лонданскі праваслаўны мітрапаліт Антоній. Ён абяцаў добрыя заказы, нават на оперу. Дарэчы, я напісаў для яго некалькі духоўных твораў, але ж застацца жыць там не згадзіўся, бо для мяне здаецца немагчымым пакінуць месцы, дзе пахаваныя мае родныя.

Наогул, Англію я вельмі люблю, а Лондан лічу не толькі самым зручным для жыцця, але і самым прыгожым горадам. І людзі тыя мне падабаюцца: калі стаіш пасярод вуліцы і нечага не разумееш, ля цябе раптоўна збіраецца цэлы натоўп народу, і ўсе жадаюць дапамагчы. Гэта вельмі прыемна.

**— Пытанне іншага характару — як складваліся вашы адносіны з крытыкай?**

— Я ніколі не крыўдзіўся на крытыку і не спрачаўся. Лічу, што кожны мае права на ўласны погляд. А калі чалавек у чымсьці ўпэўнены, дык навошта яго пераконваць? Я далёка не заўсёды бываю задаволены сабою і ўвесь час вельмі хвалююся за выкананне. Але ж імкнуся гэтага не выказваць, бо лічу, што ў любым выпадку трэба мець пэўны такт.

**— Маўклівы доказ — прыярытэт жывапісу. А якія "сустрэчы" з сусветным мастацтвам вас найбольш уразілі?**

— Мне заўсёды падабалася мастацтва італьянскіх жывапісцаў. Я быў у Рыме, Венецыі, Фларэнцыі і лічу Леанарда да Вінчы, Рафаэля і Мікеланджэла самымі геніяльнымі мастакамі. З літаратуры, як ні дзіўна, люблю Дзюма. Ну, а з сур'ёзнай літаратуры — Пушкіна, а яшчэ больш — Лермантава. Канешне, люблю Талстога і Дастаеўскага. Але на першае месца ў свеце стаўлю англійскую літаратуру. Вышэй пісьменнікаў за Шэкспіра і Байрана я не ведаю. Вальтэра Скота таксама лічу геніяльным.

**— Ведаеце, калі шукаць у нашай размове галоўную "мелодыю", дык гэта, відаць, будзе слова "геніяльнасць". Геній, на ваш погляд, — гэта асоба па-за часам ці, перш за ўсё, адно з лепшых адлюстраванняў сваёй эпохі?**

— Канешне, гэта адлюстраванне сваёй эпохі, але настолькі высокае, што і ў наступныя эпохі ён таксама застаецца геніем, застаецца, такім чынам, творчай асобай па-за часам.

**З кампазітарам сустракалася студэнтка Беларускай акадэміі музыкі Алена КАЎРОВА**



*А.Багатыроў, Р.Шырма, Т.Дубкова, Д.Шастаковіч (1975).*

***"... Для него в Полоцке позвонили к заутрене рано у святой Софии колокола, а он в Киеве звон тот слышал..."***

***Невядомы аўтар "Слова аб палку Ігаравым" калісьці сцвярджаў, што галасы полацкіх званоў далятаюць да Кіева. Цяперашнія музычныя летапісцы днямі засведчылі, што званы Сафіі набылі яшчэ большую магутнасць, бо абвясцілі, што адбылася***

## СУСВЕТНАЯ ПРЭМ'ЕРА Ў ПОЛАЦКУ

***14 кастрычніка III Міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі" адкрыўся прэм'ерай Чацвёртай сімфоніі Алега Янчанкі "Слова аб палку Ігаравым".***

15 гадоў музычная фрэска даўняга сябра Беларусі — кампазітара, арганіста і дырыжора Алега Янчанкі — чакала свайго выканання, каб нарадзіцца ў старажытным Полацку. І ў тым знак лёсу. Алег Янчанка прызнаўся, што партытура неаднаразова замаўлялася для выканання знакамітымі калектывамі Расіі, але далі ёй жыццё беларускія музыканты: Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р.Шырмы пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай, якая за кароткі час адолела складаную харавую партыю, вакальная група "Камерата" (кіраўнік Ігар Мельнікаў) і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр на чале з Генадзем Праваторавым. Маэстра з уласцівым яму натхнёным "сімфанізмам" вёў рэпетыцыйны працэс, кульмінацыяй якога стала прэм'ера.

Што ж пачулі ў зале Сафійскага сабора палачане, слых якіх арыентаваўся на класічную версію Барадзіна ў аркестроўцы Рымскага-Корсакава? Харавую сімфонію, гукавыя фрэскі якой паўставалі ў мурах Сафіі, працінаючы душу рэальнасцю былога. Над усім валадарыла слова першабытнае (Алег Янчанка выкарыстаў арыгінальны тэкст), якое высвечвала і стварала магутную архітэктоніку сімфоніі, суладную з грандыёзнасцю самога сабора.

Гэтая прэм'ерная гадзіна пакінула пачуццё ўдзячнасці да творцы, музыкантаў, усіх тых, дзякуючы каму яна здзейснілася. Сярод арганізатараў былі Канстанцін Хоміч — старшыня Полацкага гарвыканкама, Мікалай Ільніцкі — дырэктар Полацкага музея-запаведніка, Лілія Емяльянава — дырэктар канцэртнай залы "Сафійскі сабор". Яны прыкладаюць шмат сіл, каб полацкія фестывалі набіралі сілу і падтрымлівалі даўнюю славу горада.

23 кастрычніка "Слова аб палку Ігаравым" Алега Янчанкі гучала ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі: праўда, без удзелу вядучага полацкай прэм'еры — расійскага тэлекаментатара Святаслава Бэлзы.

А фестываль "Званы Сафіі" ў Полацку працягне вечарына тутэйшай арганісткі Ксеніі Пагарэлай, якая адзначае 10-годдзе творчай працы, чакаецца прэм'ера сімфанічнай паэмы "Эклезіяст" маладога беларускага кампазітара Ганны Кароткінай. На працягу лістапада пройдуць выступленні арганістаў Ё.Трумера (Аўстрыя), К.Вількуса (Польшча), Д.Энцене (Літва), Ф.Пахлатка (Швейцарыя). Сапраўды, "Званы Сафіі" набываюць сусветнае гучанне.

**Людміла МІТАКОВІЧ**

# ДАРЭВАЛЮЦЫЙНЫ МІРОВІЧ

***"Маё асабістае стаўленне да Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча — рэжысёра, педагога і чалавека — прасякнута піетэтам". Так напісаў мне з Казані ў адным з лістоў Ігар Львовіч Літвінаў, сын вядомага рэжысёра-купалаўца. "Міровіч для мяне не толькі стваральнік савецкага беларускага тэатра, не толькі таленавіты педагог, але і чалавек, які адыграў значную ролю ў маім асабістым лёсе". Менавіта Ігару Літвінаву належаць, бадай, самыя нестандартныя, неагульнапрынятыя, я б нават сказаў — рэвалюцыйныя для нашага тэатразнаўства развагі пра Міровіча. Гэтыя нататкі прапаноўваюцца чытачам не толькі з пачуццём сапраўднай унутранай павагі да рэфарматара беларускай сцэны, але і з крыўдай за тое, што дробязнае прыўкрашванне і панегірычнае ўсхваленне, якія часам запаўняюць старонкі даследаванняў, проста нявартыя памяці майстра. Высілкамі гісторыкаў ён часта ператвараецца ў нейкую культавую асобу беларускага тэатра.***

***Юрыст па адукацыі, педагог і перакладчык, аўтар шэрага падручнікаў па методыцы вывучэння замежных моў, Літвінаў доўга працаваў над кнігай пра свайго бацьку. Творчасць "рэаліста" Міровіча, які стварыў акцёрскую школу купалаўскага тэатра і заклаў ягоныя традыцыі, і ў айчынных, і ў замежных даследаваннях заўсёды абвяшчалася поўнай супрацьлегласцю дзейнасці "фармаліста" Літвінава, які нібыта разбураў гэтыя традыцыі. Таму надта пільная ўвага Літвінава-сына да папярэдніка і канкурэнта свайго бацькі цалкам натуральная. Цяпер, калі беларуская грамадскасць шырока адзначае юбілей Е.Міровіча, гэтыя развагі ўяўляюць асаблівую цікавасць.***

***Аўтар рукапісу знаходзіць здзіўляючы разрыў, што існуе паміж рэальнымі фактамі творчай біяграфіі Міровіча і іх даследчыцкай інтэрпрэтацыяй у працах А.Пятовіча, У.Няфёда, І.Шостак, В.Навуменкі... Літвінаў даводзіць таксама, што нават памянёныя ў даследаваннях факты не могуць быць растлумачаны ў межах прынятых тэарэтычных пастулатаў і схем. Фрагмент з рукапісу кнігі даецца з невялікімі скарачэннямі і, як кажуць, з мэтай наладжвання дыскусіі. Хаця палемічны, але неперадузяты тон, пераканальнасць аргументаў у спрэчцы з працамі айчынных аўтараў, спасылак на якія шмат у тэксце, на самой справе здымаюць гэтую "дыскусійнасць". Больш за тое, апошнія даследаванні расійскіх гісторыкаў тэатра І.Пятроўскай, Л.Ціхвінскай і іншых (а ў іх ёсць найцікавейшыя матэрыялы пра акцёрскую, рэжысёрскую і пісьменніцкую дзейнасць Міровіча ў дарэвалюцыйнай Расіі) толькі падмацоўваюць думкі даследчыка-энтузіяста. Літвінаў, натуральна, не мог ведаць пра гэтыя фундаментальныя работы, якія былі выдадзены значна пазней: ён пісаў рукапіс у Казані напрыканцы 70-х — пачатку 80-х гадоў і тады, безумоўна, быў першапраходцам у справе пераасэнсавання творчасці гэтага мастака. Мне здаецца важным, што, агаляючы "неспалучальнасць" фактаў альбо іх недакладную прыстасоўку да "канцэпцыі", Літвінаў узнімае праблему, якую яшчэ трэба высвятліць даследчыкам. Матэрыял, сабраны ў рукапісе, дае падставы і для высноў, адрозных ад аўтарскіх.***

***Рукапіс падрыхтаваў да публікацыі***
***Уладзімір МАЛЬЦАЎ,***
***пры фінансавай падтрымцы HESP/RSS,***
***грант 1187-97.***


Народны артыст Беларусі Е.Міровіч.

Малавывучаны "пецярбургскі перыяд" біяграфіі Е.Міровіча, як мне ўяўляецца, дазваляе больш дакладна зразумець некаторыя рысы ягонага творчага абліччa. Бо да прыезду ў Мінск Міровіч валодаў пэўным мастацкім вопытам, які аказаўся патрэбны беларускаму тэатру. Як у кожнага майстра, ягоны творчы шлях у тэатры быў даволі складаным і, ва ўсялякім выпадку, не такім просталінейным, якім яго звычайна малююць.

У працах беларускіх навукоўцаў увесь час выказваецца думка, што Александрынскі тэатр у Пецярбургу адыграў вялікую ролю ў жыцці Міровіча і назаўсёды вызначыў ягоную вернасць рэалістычнаму мастацтву. Рэжысёр і сам неаднойчы сцвярджаў, што першымі ягонымі настаўнікамі былі "александрынцы" В.Стрэльская, В.Давыдаў, К.Варламаў і іншыя. На падставе гэтых заяў даследчыкі робяць выснову, што да часу прыезду ў Мінск Міровіч быў "носьбітам прагрэсіўных тэндэнцый", якія ён і рэалізоўваў на сцэне БДТ.

На самой справе тэатральнае жыццё Пецярбурга напрыканцы мінулага стагоддзя было вельмі складаным. Аддаючы належнае велізарнаму таленту карыфеяў Александрынскага тэатра, "Тэатральная Энцыклапедыя" адначасова адзначае, што агульны напрамак гэтага тэатра тады "вызначаўся эклектызмам; "асноўным накірункам у рэжысуры тэатра быў рэалізм на мяжы з натуралізмам (рэжысёр Карпаў)"; "Імкнучыся ставіць спектаклі, адзначаныя жыццёвай праўдай і прастатой, Карпаў, аднак, не ўмеў сапраўды рэалістычна паказаць сутнасць мастацкага твора; ягоныя работы вылучаліся натуралізмам, побытавасцю, прымітыўнай аднабаковасцю"; "у той жа час асобныя спектаклі былі адзначаны імкненнем да псіхалагізму (рэжысёр А.Санін)". "Акцёрскае мастацтва тэатра таксама не вылучалася адзінствам стылю. Акцёры яскравага побытавага складу працавалі побач з прадстаўнікамі абстрактна-рамантычнага накірунку і французскай салоннай ігры"; "Большасць акцёраў імкнуліся да "гастрольных" выступленняў, цанілі ўласны поспех вышэй за поспех спектакля"...; "У Александрынскім тэатры спектакль ішоў, звычайна, пасля 8 — 10 рэпетыцый".

Сітуацыя, як бачыце, далёкая ад просталінейнасці, і ўплыў Александрынкі на Міровіча не можа быць зведзены да імёнаў трох-чатырох карыфеяў. Кантакты ж з імі маладога Міровіча, мяркуючы па фактах з кніг, мелі эпізадычны і пасіўны характар. Яны зводзіліся да наведвання спектакляў, а іншы раз і рэпетыцый (пачынаючы з сярэдзіны 90-х гадоў), удзелу ў паўаматарскіх клубных спектаклях, куды на галоўныя ролі іншы раз запрашалі Стрэльскую, Чыжэўскую, Давыдава, Варламава і іншых акцёраў.

Галоўнымі настаўнікамі Міровіча ў "гуртку аматараў імя Волкава", дзе ён атрымаў пачатковую тэатральную адукацыю ў 1898 — 1900 (?) гг., былі акцёры Александрынскага тэатра А.Панчын, П.Шэйн і В.Васільеў. Усе яны прылічваюцца беларускімі даследчыкамі да "выдатных", што, мякка кажучы, перабольшана. Ці былі яны прадстаўнікамі сапраўды рэалістычнага альбо іншага, рамесніцка-эклектычнага накірунку ў тэатры? Якая ступень іхняй мастацкай значнасці?

Я б не наважыўся так настойліва падкрэсліваць "выключны", "дамінуючы", "вызначальны" ўплыў карыфеяў Александрынскага тэатра на фармаванне маладога Міровіча, хаця, бясспрэчна, дзякуючы іхняму ўздзеянню Міровіч пазнаёміўся з традыцыямі рэалістычнага тэатра. Але ў якой ступені?

Мяркую, што ў асвятленні "ўплываў" вялікую ролю адыгрывае прымітыўна зразуметая тэатразнаўчая рэтраспектыва: напрыканцы 20-х гадоў у лепшых сваіх спектаклях Міровіч — псіхолаг-рэаліст, які ў маладосці захапляўся карыфеямі Александрынкі і некалькі разоў іграў разам з імі... Спакуса ўсталяваць непасрэдную сувязь паміж гэтымі фактамі такая вялікая, што ўсе ўдзельнікі даследаванняў міжволі і шчыра спрошчваюць і гіпербалізуюць гэтую сувязь.

Знаёмячыся з біяграфіяй Міровіча паводле кніг Бутакова, Няфёда і Шостак, я з цікавасцю чытаў назвы пецярбургскіх тэатраў, дзе працаваў Міровіч. За 18 гадоў ён змяніў іх нямала: Адміралцейскі (1900), Екацярынінскі (1903), Кранштацкі "Камерцыйнага сходу" (1910), Траецкі (1912), Ліцейны і Інтымны (1913-14). Сустракаюцца таксама згадкі пра тэатры "Арлекін", "Народны Дом", Стрэльнінскі, Араніенбаўмскі, "Высакароднага сходу", "Камедыі і драмы", "Сучасны" і іншыя. Мяркуючы па тоне гэтых біяграфій, а таксама па асобных сказах ("Міровіч амаль палову свайго творчага жыцця аддаў сцэнічнаму мастацтву ў лепшых драматычных калектывах Пецярбурга"), я лічыў, што яны займалі выбітное месца ў тэатральным жыцці калі не Расіі, дык, прынамсі, Пецярбурга. Якім жа было маё здзіўленне, калі ў той жа "Тэатральнай Энцыклапедыі" я прачытаў: "У перыяд рэакцыі, што настала пасля падаўлення рэвалюцыі (1905 г. — **І.Л.**), атрымалі распаўсюджанне шматлікія тэатры мініяцюр (Інтымны, Ліцейны, Траецкі і іншыя), тэатры "лёгкай камедыі" (...); "Тэатры мініяцюр пераважна арыентаваліся на паспаліты люд, і гэта прадвызначыла іхнюю мастацкую накіраванасць..."; "Па большасці яны ўяўлялі з сябе грубае альбо пошлае мастацтва, разлічанае на патрэбы абывацеляў..."; "У акцёрскай ігры часцяком ўжывалася грубае шаржыраванне (...); пераважна яны ігралі самую сапраўдную халтуру (...). Але ўсё ж такі былі тэатры, якія хоць нечым вылучаліся ў лепшы бок сярод іншых. У Пецярбургу гэта быў спачатку "Інтымны тэатр", а потым — "Ліцейны тэатр".

Пры ўсёй сціспасці ўзгаданых характарыстык яны ўсё ж прымушаюць засумнявацца ў тым, што гэтыя тэатры былі ўзорамі псіхалагічнай праўды і сацыяльнай глыбіні, наўрад ці яны былі носьбітамі лепшых традыцый рускага рэалістычнага мастацтва.

У мяне асабіста гэтыя факты спараджаюць пэўны роздум наконт таго, наколькі складаным быў шлях Міровіча да псіхалагізму і сацыялістычнага рэалізму. Не выпадкова крытык П.Маркаў яшчэ ў 1930 годзе адзначае ў яго "прыёмы дарэвалюцыйнага прафесійнага тэатра", а ўкраінскі крытык піша, што ў "Каліноўскім" было... шмат залішняй хадульнасці і трафарэтнага меладраматызму, характэрнага для таго перыяду рэжысёрскай дзейнасці і кіравання Міровіча".

З другога боку, нельга адмаўляць, што вышэйпамянёныя тэатры былі мала закранутыя і "левымі" плынямі, такімі моднымі на пачатку XX стагоддзя. Сама камерцыйная прырода гэтай антрэпрызы патрабавала патурання густам гледачоў, якія ў большасці сваёй былі далёка не эстэтамі. Абывацель жадаў забаўляльнасці і меладрамы, загорнутых у жыццепадобную форму, а зусім не эстэцкай стылізацыі і "левых выкрутасаў". Гэтая акалічнасць, напэўна, таксама стварыла ў Міровіча імунітэт супраць "левізны" і тым самым адыграла станоўчую ролю ў станаўленні ягонага творчага метаду.

Ці азначае ўсё гэта, што я адмаўляю трывалую сувязь Міровіча з лепшымі традыцыямі рускага рэалістычнага тэатра? Ніякім чынам. Роднасць Міровіча 20-х гадоў з рэалістычнымі традыцыямі настолькі відавочная і пецярбургскія карані гэтай роднасці настолькі бясспрэчныя, што пераконваць у гэтым чытача няма неабходнасці. Дадзеныя факты павінны падкрэсліць няслушнасць спрошчанага тлумачэння творчага метаду Міровіча ў 20-я гады, а таксама творчага шляху рэжысёра, які ішоў ад Ліцейнага тэатра да "Гуты". Вытокі рэалізму Міровіча трэба шукаць, верагодна, у натуралістычным рэалізме Александрынкі канца XIX — пачатку XX стагоддзя, а таксама ў ягоным добрым веданні "рэалістычных манер" сталічных і правінцыйных калектываў, у "жыццёвасці", нарэшце, ягонага ўласнага акцёрскага і рэжысёрскага вопыту.

Праўда, цікавасць Міровіча ў 1920-я гады да сістэмы Станіслаўскага, ступень ягонага знаёмства з ёй і тэмпы яе "ўкаранення" ў БДТ-І моцна перабольшаны. Гэтаксама малаверагодна выглядае поўнае замоўчванне бясспрэчнай увагі Міровіча да творчасці Меерхольда, Вахтангава і іншых слынных савецкіх рэжысёраў 20-х гадоў. У мяне склалася ўражанне, што сапраўдны, "паўнамерны" псіхалагізм Міровіча пачынаецца з "Моста", праходзіць праз "Міжбур'е" і дасягае кульмінацыі ў "Гуце". Усё папярэдняе было, калі можна так сказаць, "перадпсіхалагізмам", гэта значыць, у рознай ступені набліжала Міровіча і тэатр да таго, што Станіслаўскі назваў "душэўным рэалізмам, праўдай мастацкага перажывання, мастакоўскага пачуцця". І калі геній Крыловіча дазволіў яму інтуітыўна выйсці на гэты ўзровень раней і найбольш паслядоўна (з дапамогай Міровіча), дык у іншых гэта адбылося пазней — у розны час і з рознай стабільнасцю. Але для самога Міровіча пераход на пазіцыі ўнутранага, псіхалагічнага рэалізму быў, верагодна, звязаны з самім канцом 20-х гадоў (так, прынамсі, гэта выглядае ў літаратуры; поўнай зразумеласці ў гэтым пытанні ў мяне няма, і цяпер яна наўрад ці магчымая).

**Ігар ЛІТВІНАЎ**


*Сцэна са спектакля "Машэка".*


*Сцэна са спектакля "Кастусь Каліноўскі".*

## МАЙСТАР-КЛАСЫ КЛАСІКА

З 28 па 31 кастрычніка ў памяшканні Беларускай акадэміі мастацтваў адбудзецца міжнародная навукова-метадычная канферэнцыя "Сучасныя праблемы падрыхтоўкі акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў". Мэта канферэнцыі — прааналізаваць стан і сучасныя праблемы падрыхтоўкі акцёраў і рэжысёраў. Падчас працы форуму пройдуць мемарыяльныя мерапрыемствы па ўшанаванні светлай памяці народнага драматурга Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча. Таксама пройдуць майстар-класы гасцей і выкладчыкаў БелАМ, адбудуцца спектаклі мінскіх тэатраў паводле драматургічных твораў Е.Міровіча. Ягоныя вучні падзеляцца сваімі ўспамінамі аб настаўніку.

Згодна з традыцыяй, матэрыялы канферэнцыі будуць выдадзены асобным зборнікам.

Тэлефоны для даведак: (017) 232-15-42, (017) 232-03-63.

**Наш кар.**

№ 41 24 — 30 кастрычніка 1998 г.

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

**1 лістапада споўнілася б 90 гадоў з дня нараджэння Яўгеніі Эргардаўны Пфляўмбаўм — выдатнай беларускай паэтэсы з нямецкім прозвішчам (яе бацька — з ліку запрошаных на пачатку стагоддзя для працы ў мінскім дэпо нямецкіх чыгуначнікаў). Дэбютавала ў друку ў 1924 годзе. На яе творчым рахунку — лірычныя вершы, што ўвайшлі ў калектыўны зборнік (1926) і сабраны ў кнігах "Сувой жыцця" (1989) і "На захадзе сонца" (1992). Падрыхтаваная да друку кніга пад назвай "Зімовае сонца" выйдзе ў свет ужо без аўтара: паэтэса памёрла раптоўна ў студзені 1996 года.**

**Прапануем увазе чытача напісаны па просьбе рэдакцыі "Культуры" роздум пра жыццёвы і літаратурны лёс Яўгеніі Пфляўмбаўм яе шматгадовага сябра па жыцці і творчасці, аднаго з патрыярхаў сучаснай беларускай літаратуры Максіма Лужаніна, а таксама некалькі невядомых да гэтага вершаў паэтэсы.**

*У 1926 годзе — годзе заканчэння педтэхнікума.*

# "ВОСЬ І ЗНАЙШОЎСЯ ТОЙ РАДОК..."

**Максім ЛУЖАНІН**

## СЛОВА ПРА ДРУГА-ПАЭТА

Старонкі кніг Яўгеніі Пфляўмбаўм — як толькі іх разгорнеш! — адразу агартаюць нейкім своеасаблівым водарам ці павевам. Гэта трывае ад першага радка да апошняга, не адступаючыся, усё больш здзіўляючы і вабячы да сябе. І не хутка, нават дапытліваму воку, раскрываецца гэтая вось адметнасць: на вас увесь час дыхае смутак. І смутак не аднаго чалавечага сэрца, а і смутак шуму бярозы за акном, смутак жытняга поля, смутак суседавага дзіцяці ці самога, можа, суседа, смутак каня на лузе, пчалы на кветцы, сонечнага променя, які прыпаў да зямлі.

Разуменне сутнасці пералічаных смуткаў прыходзіць не адразу, прыходзіць неяк вельмі нечакана і супярэчліва: яны вырастаюць у пратэст супраць няпраўды і ўсялякай несправядлівасці, супраць існавання таго, што можа выклікаць непрыемнасці, быць горкім для каго і нават для чагонебудзь. Пратэст гэты адчуваецца слабей ці выразней, але, не губляючы тым не менш сваёй галоўнай афарбоўкі і накіраванасці, мае адзін і той жа сэнс: так не павінна быць!

Скрозь мусіць быць хораша на зямлі: дзецям, жывёлам, птушкам, раслінам.

Пратэст выказаны. Але зрабіць у сапраўднасці пасвойму, зрабіць так, каб сапраўды стала ўсім лягчэй і лепш, — не на паэтаву сілу. На гэта не хапае моцы нават у дзяржаў і народаў. У паэта адзін ратунак: пераліваць свой неспакой у словы.

Так была настроена і гэта спеўная душа — прымаць у сябе ўсе некім некаму ўчыненыя крыўды.

Да таго ж лёс не пасцілаў на шляху яе самой ружовыя дываны. Расла без бацькі, бо ён стаў запіваць і маці мусіла пайсці ад яго з двума малымі. Жылося галаднавата і халаднавата. Амаль без сяброўак. Самотна адчувала сябе ў школе і ў Белпедтэхнікуме. Таму, калі тэхнікумаўскі вартаўнік, дзядзька Лабанок, абвяшчаў перамену, б'ючы ў званок, голасам, падобным на звон вясковай капліцы, і ўсе высыпалі на панадворак парагатаць, пабегаць, перамігнуцца, дык чарнакосае і цемнавокае дзеўчаня да шумлівага натоўпу не далучалася. Яна сядзела ў аўдыторыі на падваконні і глядзела ў калідор. Гэта зацікавіла. Паўлюк Трус, яе аднакурснік, растлумачыў: Жэня Пфляўмбаўм, вучыцца добра, мінчанка, да нас, вясковых, асабліва не хінецца. Аднак, тлумачыў далей, піша вершы. У нашу студыю "Маладняка" не захацела пайсці, паступіла ў "Маладняк" самастойна.

У той жа паставе на акне я пачаў прыкмячаць яе, прыходзячы на маладнякоўскія сходы. А тэхнікум яна к той восені пакінула ўжо, бо паступіла ва універсітэт. Не хацела сядзець на матчыным клопаце, прагнула сама зарабляць на хлеб, і таму адразу ж пасля універсітэта пайшла на працу, мела паспешлівае няўдалае замужжа.

Той парою я пачаў сустракаць яе ў зімовым скверыку каля тэатра. Аднойчы, павітаўшыся, яна сказала нешта больш за "дзень добры", сталі гаварыць, сядзелі на лавачцы, пакуль не замерзлі. Выходзіла, што і яна помніць мяне яшчэ з таго часу, як жылі поруч, цераз пераезд, на вуліцы Розы Люксембург. Непрызначаныя сустрэчы нашы сталі часцейшыя. Тон размовы ў яе быў не сказаць каб рэзкі, але роўна кплівы: гаварыла аднолькава пра калег па пяру і пра нянек з малымі ў калясках... Далей —болей. Мне стала прыкметна, што кплівасць у яе распаўсюджваецца і на самую сябе. Пазней высветлілася, што гэта — трывога, непагасны душэўны неспакой, той самы смутак-пратэст, пра які ўспаміналася вышэй.

Сталі наведваць кіно і хутка, яшчэ мінаючы ЗАГС, адбылі шлюбнае падарожжа ў Карэізе і пачалі жыць разам. На жаль, нядоўга. У сакавіку 1933 года мяне арыштавалі, засудзілі і адправілі ў Сіблаг. Яна наспыталася горкага ўніжэння як жонка "ворага народа": звальненне з работы, валавода з пашпартам, чэргі з перадачамі ў турму, непазнаванне з боку знаёмых і г.д. І ўсе гэтыя турботы і клопаты — на нетрывалыя, мала больш чым дваццацігадовыя плечы.



1969 г. На сямейна-творчай радзе.

Ды трымаў і вёў яе духоўны абавязак — памагчы сябру ў бядзе. Сабралася і ў студзені 1934 года прыехала да мяне ў Марыінск. Там як быццам і пашанцавала: якраз вызвалілася месца ў школе. Праўда, не было педагагічнага вопыту, не было дзе ўзяць падручнікаў. Выручала маладая памяць ды яшчэ добрае старанне вучняў. Удавалася крыху падзарабіць на дах, на хлеб, ды яшчэ на доўгачаканы зварот.

Вярталіся цераз Маскву. Тут выбліснула нечаканая магчымасць прапісацца ў далёкіх сваякоў. Аднак заставаліся ўсё тыя ж незадачы: праца і дах. З вялікімі цяжкасцямі, за немалыя грошы наймаліся куткі, часовыя, нязручныя. На сталую працу нас з нашым "мінулым" не бралі, якую-небудзь выдавецкую работу на дом здабыць таксама было цяжка. У выніку — адна сукенка ў будзень і ў свята, а паёк — сподак вінегрэту і скібка хлеба на ўвесь дзень. З болем усведамляў, што не магу больш зарабіць, зрабіць штонебудзь для яе, для нас.

Аднак, хоць і не пісалі, але мацаваліся маладосцю і вераю ў лепшае. Наш падмаскоўны барачны куток наведваў часам Янка Бобрык з Ленінграда, тулілася ў нас колькі дзён Зінаіда Бандарына, не міналі Юлій Таўбін і Змітрок Астапенка. Яны, па нашым прыкладзе, таксама неяк ухітрыліся прапісацца ў Маскве пасля сіблагаўскіх "прыгодаў". Мінчане (Глебка, Галавач і інш.), да нас не завітвалі, але запрашалі да сябе ў гасцініцу ці да сваіх знаёмых.



УСЕБЕЛАРУСКАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ ПОЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ „МАЛАДНЯК"

ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО

г. Менск

СЯБРОЎСКІ БІЛЕТ № 13

Прозьвішча: Пфляўмбаум

Імя, імя бацькі: Яўгенія

Час уступленьня ___ 192_ г.

Выдан „2-" красавіка 1927 г.

Старшыня ЦБ: М. Чарот

Сакратар: В. Сташэўскі

Сяброўскі білет Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк" за подпісам Міхася Чарота і Васіля Сташэўскага.

Не маглі не абуджацца вершы з прыездамі ў Маскву Янкі Купалы. Па-бацькоўску цёплымі былі яго адносіны, пра што сведчаць шматлікія яго кнігі з аўтографамі.

З вяртаннем у Мінск, калі з мяне былі знятыя "плямы", жыццё, вядома, стала раўней і прытульней. Патрэба выказацца ўголас пачала ў яе ўзрастаць. Колькасць спісаных блакнотаў расла, але на вочы нікому нічога не паказвалася. Я расказваў ужо аднойчы, як Аркадзь Куляшоў уратаваў цэлую пасцілку асуджаных паэткаю на спаленне вершаў, угаварыў складаць кнігу і падручыўся быць рэдактарам, але не паспеў (пайшоў з жыцця). Рукапіс ляжаў у маім стале, часамі яна дадавала адну-дзве старонкі, але брацца за падрыхтоўку кнігі па-ранейшаму не хацела, мабыць, не рашалася. У адным з вершаў яна нават прадказвала, што яе радкі не ўбачаць свету. Ды жаданне бачыць іх у свеце яе ўсё ж турбавала. Аднойчы, перадаючы мне свежанапісаныя і перадрукаваныя старонкі, сказала з крыўдай: "Ты іх, відаць, складаеш у стос не чытаўшы. Вазьмі ды надрукуй пад сваім прозвішчам". Аднак мая прапанова надрукавацца, нарэшце, пад сваім імем і ўзяцца за ўпарадкаванне зборніка была зноў ёю адкінута.

Было так, пакуль шчаслівы выпадак (калі гэта можна назваць выпадкам) не паслаў тагачаснага рэдактара "Літаратуры і мастацтва" Анатоля Вярцінскага. Ён здолеў угаварыць, з яго апекаваннем пачалося друкаванне яе вершаў. Трэба было бачыць яе радасныя вочы пры з'яўленні нумара "ЛіМ"а з цэлаю старонкай вершаў, так доўга ашчаджаных ад чужых вачэй. Газету забрала і схавала ў сваім пакоі, а потым папрасіла купіць яшчэ колькі нумароў у запас. Прызналася потым, што калі ноччу ўзялася яшчэ раз паглядзець на ўласныя вызваленыя са спратаў і адбітыя друкам пачуцці-думкі, то не вытрымала і заплакала.

Вышэй ужо казалася, як балела і бунтавалася яе душа праз недзе некаму ўчыненую крыўду. Становячыся вершам, чужыя смуткі набывалі афарбоўку асабістых. Пратэст і імкненне абараніць другога ад адчаю хтосьці можа палічыць за вынік безвыходнасці жыцця самога аўтара. Так, прачуўшы чыёсьці гора і выказаўшы свае адносіны да яго, паэтка замест "нехта тужыць" пісала: "я тужу", "мне баліць", не трэба наганяць тугу, рабіць балюча людзям. Значыць, самотны, прыгнечаны стан не павінен пераносіцца непасрэдна на аўтара, а павінен успрымацца як абагульненне. Вельмі ж няпросты духоўны свет паэткі. Яна была ўдзячная лёсу за кожны пробліск прасветласці, адпаведна святлеў і радаваўся яе радок.

Шмат аб чым адметным здагадаўся Сяргей Дубавец, чытаючы вершы Яўгеніі Пфляўмбаўм і дзелячыся ўражаннямі ў сваіх "Практыкаваннях", — і аб першаснасці паэтычнага пачатку ў жанчын, і аб ператварэнні, здавалася б, далёкага ў асабістае, а асабістага ва ўсіхняе. Вельмі прыхільна паставіўся да яе часопіс "Крыніца", даўшы ў адным з нумароў слова самой паэтцы і змясціўшы тут жа выказванні пра яе многіх літаратараў. Гэты нумар яна трымала пры сабе нават у свае апошнія дні.

І яшчэ вось што ўспамінаецца і дапаўняе, паглыбляе рысы яе вобліку.

Калі ў канцы 1942 года я прыехаў з-пад Сталінграда ў Маскву, то ледзьве пазнаў Яўгенію Эргардаўну. У яе, галоднай жыхаркі галоднага горада, якая здавала кроў для фронту, два месяцы запар кралі хлебныя карткі. І вось яна знебылася так, што не трымалі ногі, а рэчы і дамы расплываліся перад вачыма. На спробе зрабіць трэці раз рабунак-крадзёж яна захапіла суседку па рабочым пакоі ў выдавецтве. Тая, спалохаўшыся выкрыцця і ганьбы, кінулася ў слязах абдымаць калені. Яўгенія Эргардаўна забрала свае карткі і толькі злёгку адапхнула няшчасную зладзейку: "Вы, мусіць, яшчэ больш галодная, чым я, раз пайшлі на такое". І нікому, акрамя мяне, нічога не сказала, не пажалілася нікому.

Ведаю і некалькі іншых падобных выпадкаў, калі яна станавілася над самой сабою, не дапускала, каб бруд і дробязі засмечвалі душу.

Ды пастаяць за сябе магла. Разбіраючы яе паперы, знайшоў недаканчаны, а, можа, недасланы ліст, дзе яна двума-трыма радкамі выкасавала нікчэмнасць з шэрага людзей, прысаромеўшы: "Ты ж маеш годнасць, камуніст!" Праўда, у вершы яе адносіны да той асобы не трапілі — ваяваць паэтка не ўмела і не хацела. Другі раз яна, дагнаўшы на вуліцы літаратара, які бываў у нас дома, прывячаўся хлебам і чаркаю і раптам стаў распускаць злосныя плёткі пра мяне, — кінула яму проста ў вочы: "Што ж гэта вы робіце? Тое, што вы робіце, можа каменем пацэліць у вашых дзяцей". І лёс наўпраўду жорстка пакараў неўзабаве таго няўдзячнага літаратара.

Даканчваючы складаць яе кнігу, давялося перабраць усе паперы. Гэта — сапраўды лабараторыя! Простыя, неказырыстыя радкі з дзеяслоўнымі рыфмамі марудна набывалі канчатковы выгляд, рабілася па некалькі варыянтаў, пакуль не стварыўся канчатковы тэкст, які ўражвае нас незвычайнай простасцю, даступнасцю думкі, завершанасцю выражэння. Яе вяло жаданне: ніводнай ноты фальшы, пачуццё павінна віраваць, пералівацца з душы ў душу.

Імя — Яўгенія Пфляўмбаўм — выратавана ад забыцця, упадабана і прынята многімі сэрцамі. Яно азначае сапраўдныя паэтычныя набыткі. І ўсё ж, ведаючы дарунак і магчымасці паэткі, адчуваеш, якую страту і шкоду беларускай літаратуры ўчыніў трывожны і несправядлівы час — не даў да канца выспавядацца гэткаму вялікаму, чуламу сэрцу.

*Кастрычнік 1998 г.*

**Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ**

### НЯСПРАЎДЖАНЫ ДЗЕНЬ

*Куды ты хінешся, няспраўджаны дзень,*
*Змаганне маё і пакута?*
*Смяюся цяпер я радзей і радзей,*
*Хоць муза ў лякеркі абута.*
*За вокнамі месяц яшчэ малады,*
*Але паглядае звысоку:*
*На лічніках зорак ён лічыць гады*
*Ці проста прыкіне на вока.*
*Рахункі-маланкі. Тут поўны ажур:*
*Далёка сягнула жанчына.*
*Ён бачыў мяне, дзе гнаў хвалі Амур,*
*Якім жа вось тут яны чынам?*

* * *

*Маё змаганне, барацьба*
*Не гасне, не старэ, —*
*Яго я змалку пачала,*
*З лятункавых арэляў.*
*І ў далеч смутную паплыў*
*Малы караблік мары:*
*З высокай хваляю прыліў*
*Пад зоркаю Палярнай.*
*Чаго ж так прагла той парой*
*Бязбацькава істота,*
*Якіх нявызнаных парод,*
*Далёкіх пералётаў?*
*Спявалі птахі мелас свой,*
*І сэрца прастарнела,*
*Звіналі воблакі сувой,*
*Калі здалёк грымела.*
*Чаго ж так прагнула душа —*
*Спагады ці патолі,*
*Ды хто ж тады перамяшаў*
*Жаноцкія нядолі?*
*Хапіла б нават аднае,*
*Каб буйна спелі слёзы...*
*А птах за вокнамі пяе*
*Без воплескаў, без позы.*
*Патока слаўная! Спыні*
*Свае маракаванні, —*
*Час вершу спаць, каб зноў не сніць*
*Нялюдскае каханне.*

### ВАГА ТУГІ

*Няма ні меры, ні вагі, —*
*Хіба мядзяныя бязмены*
*Узважаць глыбіны тугі*
*З парод нявызнаных, каменных?*
*Вось і знайшоўся той радок,*
*Якому скардзішся на вуха,*
*А ён аглух як незнарок:*
*Тут скрозь натоўпу завіруха.*
*Каму зайздросціць? Даль мігціць*
*І шпарка вобразы глытае,*
*А недзе ж веліч зіхаціць,*
*Спакойна зорыць над Алтаем.*
*І тут, над горадам маім*
*І над Алімпам мітуслівым, —*
*І з ёю разам у страі*
*Спакою велічнага нівы.*

### ЖЫЦЦЁ СЛОВА

*Ёсць людзі людскія. Яны*
*Гадуюць радасць свету.*
*Здалёк нікому не відны,*
*Чутны ж на ўсю планету!*
*Разумны скажа: — Іх няма,*
*Ці аднаго хоць стрэла?*
*Калі сустрэнеш, затрымай*
*І запытайся смела:*
*— Мне слова трэба для жыцця,*
*Каб жыць, мне трэба слова.*
*Тут зразумее і дзіця:*
*Няхай адну палову*
*У слове тым жыве дабро,*
*І да таго ж замова*
*Ад злога,*
*Ад старога,*
*Што нам*
*Запасіць змрок*
*І гасіць зрок.*

*1959 г.*

**Публікацыя Максіма ЛУЖАНІНА**

ВЕРСІЯ
№ 41 24 — 30 кастрычніка 1998 г.

ЯН ТАПАРОЎСКІ

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА

*(Працяг. Пачатак у №№ 39 — 40)*

**Тайны 37-га года**

***Ад рэдакцыі.*** ***Гэтымі днямі на адрас газеты прыйшла бандэроль са свежым нумарам штотыднёвага дадатку да вядомай рускамоўнай ізраільскай газеты "Вести". (Заўважым, што дадатак, на які мы спасылаліся ў № за 10.10.1998 г., выходзіць пад назвай "Окна"). У нумары, пад рубрыкай "Адкрыты ліст", змешчаны звароты сваякоў Іегуды Пэна, члена муніцыпальнага савета Іерусаліма Ларысы Герштэйн і галоўнага рэдактара газеты "Вести" Эдуарда Кузняцова да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з просьбай даць указанне адпаведным органам наконт перагляду справы аб забойстве Пэна. Тут змешчана заява дырэктара прэс-службы ізраільскага ўрада Б.Брыскіна, у якой гаворыцца: "На парозе XXI стагоддзя нам усім асабліва важна, каб справядлівасць перамагла нават праз 60 гадоў".***

**ДАКУМЕНТЫ І ПАМЯЦЬ**

Дакумент данёс да нас апісанне месца, дзе адбылося ліхадзейскае забойства: мастаку перарэзалі горла. Пакінулі сляды па ўсёй кватэры, быццам наўмысна ці дэманстратыўна. Што ж шукалі: грошы? Але грошы ў пратаколе зафіксаваны. Ды прылады забойства тут жа: сякерка — ля кушэткі, а нож — ля ўзгалоўя, пад валікам. Перарэзаць нажом горла чалавеку не ўсякі наважыцца. Тым больш, просты злодзей. Сам спосаб забойства гаворыць аб прафесіяналізме ў справе забівання. Такое хутчэй за ўсё можа зрабіць маньяк альбо заплечных спраў майстар — на двары 1937 год. Але пратакол з месца здарэння — толькі дакумент. Апрача дакумента 60-гадовай даўнасці існуюць яшчэ і ўспаміны сведкаў, якія таксама маюць немалую каштоўнасць. У памяці захоўваюцца непрыкметныя дэталі, крупінкі, па якіх можна ўзнавіць падзеі, звязаныя з гэтым забойствам.

Вучань Пэна, мастак Міхаіл Райхель, звярнуў маю ўвагу на невялікую заметку ў ізраільскай газеце "Звенья" № 1 ад 1 студзеня 1992 года. Аўтар заметкі **Шыфра Перапл ётчык** — па ўсёй бачнасці, родам з Віцебска — адказвае на артыкул Фані Каплан, апублікаваны ў газеце раней:

*"У канцы артыкула Фані Каплан піша, што Пэн быў забіты бандытамі Бакам і Файнштэйнам, — гэта не адпавядае сапраўднасці...*

*Бак і Файнштэйн — студэнты мастацкага тэхнікума (вучэльня — "наследніца" школы Пэна і Акадэміі Шагала. —* ***Я.Т.****) — сапраўды адразу пасля забойства былі арыштаваны, следчыя з іх страшэнна здзекаваліся, іх садзілі ў ледзяныя ванны, каталі гарачым жалезам, абцугамі сціскалі пальцы рук і ног, білі і г.д. Такім чынам, следчыя дабіліся ад іх прызнання (самаабгавору). Пра ўсё гэта нам расказаў мой школьны сябра Бак ужо пасля вызвалення з турмы і поўнай рэабілітацыі і асуджэння сапраўдных забойцаў".*

Такім чынам, згодна з дадзеным паведамленнем, двух студэнтаў каталі, і яны далі "паказанні" (звярніце ўвагу на дзіўную акалічнасць: па справе праходзіла сям'я Файнштэйн!). Як вядома, падобныя "прызнанні" пад прымусам часцей за ўсё выкарыстоўвалі не ў адносінах да крымінальнікаў, а ў адносінах да палітычных,



*Гогалеўская вуліца ў Віцебску. З правага боку — дом, у якім жыў Іегуда Пэн*

бо гэта быў 1937 год, і ўжо дзейнічала пастанова ЦК ВКП(б) "Аб прымяненні да абвінавачаных па контррэвалюцыйных артыкулах мер уздзеяння, аналагічных тым, што прымяняюцца ў капіталістычных краінах супраць камуністаў". А з гэтага вынікае, што з самага пачатку справы аб забойстве Іегуды Пэна яе маглі кваліфікаваць (унутры НКВД) як ПАЛІТЫЧНУЮ або як ПАЛІТЫЧНУЮ пад покрывам крымінальнай. Успомніце "Справу Міхоэлса", нібыта трапіўшага ў аўтакатастрофу. У дадзеным выпадку супадаюць і значымасць таленту гэтых людзей для ўлады, і месца забойства — Беларусь.

Якая справа — такія і метады.

Палітычныя справы у той час кроіліся па наступным фасоне: допыты-катаванні, абгавор "злачынцам" самога сябе; здзяйсненне злачынства не ў адзіночку, а цэлай арганізацыяй (групай); паказальны працэс і — як заключны акорд — знішчэнне праз нейкі час і тых, хто гэтую "справу" выдумаў.

І калі ўсе гэтыя элементы прысутнічаюць у "Справе Пэна", то тады і суд, і прыгавор паўстаюць у зусім іншым святле. У святле 1937 года.

**ПРЫ ПЕРШЫМ РАЗГЛЯДЗЕ**

Такім чынам, упершыню ўбачыў свет самы важны дакумент са "Справы Пэна" — "Пратакол агляду месца злачынства, здарэння забітага гр-на гор. Віцебска па Гогалеўскай вуліцы у доме № 1 ПЭНА Юрыя (Іегуды) Майсеевіча". Пратакол паведамляе нам пра страшны малюнак: у лужыне крыві ляжаў мастак з перарэзаным горлам. Ён ляжаў паміж кушэткай і печкай. На труп для нечага былі навалены рэчы. Побач прылады забойства — сякерка, а на самой кушэтцы — нож. На сценах кватэры ва ўсіх чатырох пакоях былі развешаны карціны, а там, дзе карцін не было, — на сценах — пацёкі крыві. Больш за тое, кроў была і на адзенні ў шафе, і на іншых рэчах, быццам нехта ў іх корпаўся і нешта, можа быць, грошы, шукаў. Але пратакол паведамляў, што грошы ў шуфлядзе былі, апрача іх і ашчадкніжкі. Насцярожвала тое, што грошы не кранулі, карціны, як быццам, таксама. Тады што ж шукалі?

Ад таго, наколькі прафесійна будзе праведзены агляд і наколькі дакладна ўсё будзе зафіксавана ў пратаколе, залежыць, па якім шляху пойдзе следства, а ад гэтага ўжо і залежыць лёс падазраваемых. Усе памылкі, як растлумачыў мне крыміналіст Леанід Словін, пачынаюцца з пратакола агляду месца здарэння. Таму я і папрасіў прафесіяналаў як з былога СССР, так і з Ізраіля пракаментаваць гэты пратакол.

**КАМЕНТАРЫЙ ПРАФЕСІЯНАЛАЎ**

Ізраільскі эксперт-крыміналіст N. (у сувязі са спецыфікай работы прозвішча не падлягае агалашэнню"):

*"Перш за ўсё я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу*


*І. Пэн. "Гадзіншчык".*

*на некаторыя агульныя палажэнні. Расія таго часу ў галіне крыміналістычнай навукі, практыкі і аснашчэння, была перадавой краінай. Па маіх падліках, толькі адных перыядычных выданняў на тэмы крыміналістыкі там выдавалася 15 штук. Гэта намнога больш, чым у любой краіне Еўропы на сённяшні дзень. Не кажучы ўжо пра Ізраіль. Рэгулярна выходзілі, пачынаючы з 20-х гадоў, такія часопісы, як "Савецкая юстыцыя", "Савецкае заканадаўства", "Адміністрацыйны веснік", "За савецкую законнасць", "Судмедэкспертыза" і г.д.*

*Пачынаючы з 1925 года ў гэтых часопісах больш альбо менш рэгулярна публікаваліся артыкулы па дактыласкапіі (гэта нам важна ведаць, калі мы захочам паказаць ці даказаць, што дактыласкапічная экспертыза ў справе Пэна магла быць праведзена). Што ж тычыцца менавіта Рэспублікі Беларусь, то там у канцы 20-х гадоў былі надрукаваны працы, якія абсалютна дакладна паказваюць на тое, што ў рэспубліцы быў набыты сур'ёзны вопыт працы па дактыласкапіраванню на месцы злачынства. Хачу звярнуць увагу на артыкул В.П.Уласава "Дактыласкапія на службе крымінальнага вышуку (Вопыт Беларусі)", апублікаваны ў "Адміністрацыйным весніку" за 1927 год. Трэба думаць, што праз 10 гадоў дактыласкапія была ўжо "агульным месцам" у Расіі.*

*Апрача тых 15 выданняў, якія выдаваліся ў СССР, у краіне перакладалася абсалютна ўсё, што выдавалася ў Германіі па дадзеным пытанні. Нямецкі вопыт, вопыт Скотланд Ярда, вопыт швейцарцаў быў вядомы ў Расіі. Акрамя таго, ведамствы НКВД тых гадоў рэгулярна выпускалі інструктыўныя бюлетэні, кнігі, прысвечаныя метадам аналізу злачынстваў. Таму нельга лічыць, што Беларусь 1937 года была цьмутараканню ў крымінальнай навуцы і расследаванняx злачынстваў.*

*Цяпер наконт месца злачынства, апісанага ў дакуменце. Я магу меркаваць, зыходзячы з зафіксаванага ў дакуменце, што паколькі труп быў выяўлены ляжачым на спіне з парэзам на горле, то, па ўсёй бачнасці, парэз на горле быў зроблены ў стане, калі чалавек ужо ляжаў. І вось чаму. Па-першае, вельмі цяжка трапіць нажом у горла чалавеку, які стаіць і які, да таго ж, апрануты ў паліто, а горла яшчэ і перавязана шалікам, па-другое, становішча плямаў (у пратаколе: "крыві"), якія сабраліся ў асноўным пад спіной трупа і не трапілі на ногі, гаворыць аб тым, што кроў хлынула альбо лілася, калі цела ляжала. Далей я магу дапусціць, што зваліць мужчыну, які стаіць, — незалежна ад таго, моцны ён альбо слабы, — можна або ўдарыўшы яго па галаве, або нанесшы прафесійны ўдар у сківіцу. Але паколькі чарапная траўма ў дакуменце ніяк не азначана, то значыць, што чалавек быў павалены на падлогу або ўдарам, які мог зрабіць толькі мужчына, або яго павалілі некалькі чалавек у выніку барацьбы. Але ў пратаколе месца агляду нічога не сказана пра сляды сур'ёзнай барацьбы на месцы злачынства: не паказаны паваленыя прадметы, паламаныя рэчы... Ёсць апісанне размяшчэння тахты, якая так альбо іншым чынам павернута, але гэта зусім не гаворыць пра сляды барацьбы.*

*На сённяшні дзень дзіўна выглядае і такое мноства крывавых плямаў. Больш за тое, з пункта гледжання сённяшняга падыходу, навогул невядома, што гэта былі за плямы. Таму што экспертыза на прадмет таго, кроў гэта ці не, праведзена не была.*

*Сёння, калі б мы абследавалі кватэру, у якой знаходзіўся труп, мы б накont кожнай плямы напісалі б, што "пляма падазраваецца ў тым, што гэта крывавая пляма". Але толькі пасля таго, як будзе праведзена экспертыза на рэакцыю Кахельмаера — гэта значыць, на рэакцыю, якая пацвярджае, што гэта — кроў, можна сказаць, што перад намі на самой справе "плямы крыві", але і пасля гэтага яшчэ трэба даказаць, што гэта кроў чалавека. Абавязкова трэба было б вызначыць, што тыя плямы, якія ў мностве меліся на месцы здарэння і якімі кватэра была проста "аздоблена", з'яўляюцца плямамі крыві.*

*Варта было ўлічваць і тое, што, калі забойства здзейснена з дапамогай нажа, то неабходна праверыць прыналежнасць плямаў да той альбо іншай групы крыві, таму што заўсёды ёсць верагоднасць таго, што злачынца, які наносіў удары нажом, тым больш кухонным, як у дадзеным выпадку, мог парэзаць сваю ўласную руку. Яго рука магла саслізнуць з ручкі ў бок ляза — і атрымаць парэз: тым больш, што нож "з тачэннем", як пішацца ў пратаколе. Зусім незразумела, каму належыць гэта кроў: толькі ахвяры ці яшчэ і забойцы. На жаль, у дакуменце нічога не сказана аб праведзенні неабходнай экспертызы. Таму і нельга зрабіць адпаведныя высновы. Яшчэ раз падкрэслю, што пры такім мностве крыві, якой была заліта кватэра Пэна, проста неабходна было вызначыць, ці з'яўляюцца гэтыя плямы плямамі крыві, а калі і так, то ўстанавіць групу крыві.*

*Чамусьці не была праведзена і дактыласкапічная экспертыза, хаця яна, пэўна, — тэарэтычна і практычна — магла быць праведзена. Вопыт яе правядзення быў вядомы, і выявіць адбіткі пальцаў на паперах у сталe, у якім корпаліся (як запісана ў пратаколе), было абсалютна трывіяльнай справай. У той час ужо былі вядомы ёд газападобны, які выкарыстоўвалі для выяўлення адбіткаў, ды і парашкі для выяўлення такіх доказаў ужо існавалі. Прынамсі, два спосабы выяўлення адбіткаў былі ў ходу, але ні адзін з іх не быў ужыты".*

*(Працяг будзе).*

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!

# "СТЫКОЎКА" ТАЛЕНАВІТЫХ

**На ўсіх этапах свайго станаўлення і развіцця камсамол надаваў увагу маладой творчай інтэлігенцы. Адной з форм работы ў гэтым накірунку, аглядам новых талентаў з'явіліся рэспубліканскія семінары творчай моладзі. Яны сталі сапраўднай школай павышэння прафесійнага майстэрства для соцень і тысяч таленавітых юнакоў і дзяўчат Беларусі. Першы такі семінар адбыўся ў 1966 годзе на возеры Нарач. Потым былі Свіцязь, Наваполацк, Орша, Светлагорск, Радашковічы, Брэст, Магілёў, Гродна...**

**Аўтару гэтых радкоў, як паэту і камсамольскаму журналісту, пашчасціла браць удзел у некаторых з гэтых сумесных мерапрыемстваў ЛКСМБ і творчых саюзаў. Таму і наважыўся ўзгадаць тое-сёе з аднаго з такіх семінараў, які праходзіў на турыстычнай базе "Нёман" непадалёк ад Гродна.**

Гэты семінар вызначаўся перш за ўсё тым, што пераважная большасць яго ўдзельнікаў упершыню прысутнічала на такім прадстаўнічым форуме. Але ўсіх яднала цікавасць да новага, усе былі аднадумцамі.

Адзін дзень на семінары быў цалкам аддадзены літаратуры.

А потым быў дзень кіно. Удзельнікі семінара прагледзелі новыя стужкі, створаныя маладымі кінематаграфістамі, сустрэліся з пастановачнай групай фільма "Вянок санетаў". Меў магчымасць паразмаўляць з актрысай кінастудыі "Беларусьфільм" Святланай Сухавей.

Дзень музыкі. Вечарам у Гродне адбыўся канцэрт маладых беларускіх кампазітараў. З некаторымі з іх я гутарыў папярэдне. Уладзімір Дарохін, у прыватнасці, не навічок на семінарах. Для яго творчасці характэрнай мне падалася сучасная кампазітарская тэхніка. "На гэты семінар, — адзначыў мой новы сябра, — я прывёз сімфонію, у якой спалучыў розныя стылістычныя напрамкі сучаснай музыкі". Добра вядома і прозвішча Валерыя Іванова, чые творы даўно і даволі часта гучаць на эстрадзе і па тэлебачанні. "Тут я паказваю ў запісе дзве п'есы для аркестра і біт-групы..."

"Што даў вам семінар?" — гэтае пытанне я задаў некаторым яго ўдзельнікам у апошні дзень, там, пад Гродна...

Пра тое ж самае я запытаў праз трыццаць два гады, якія прайшлі пасля першага семінара...

20 кастрычніка 1998 года ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася сустрэча ўдзельнікаў семінараў творчай моладзі, прысвечаная 80-годдзю ВЛКСМ.

Трэба было бачыць, з якой радасцю сустракаліся былыя "семінарысты" розных пакаленняў. Многія з іх сёння — знакамітыя на Беларусі людзі: пісьменнікі, кампазітары, мастакі, архітэктары, якія сваёй творчасцю заслужылі павагу і прызнанне народа. У зале, дзе праходзіла сустрэча, панавала атмасфера сапраўднага, шчырага сяброўства; моцным поціскам рук, абдымкам, пацалункам не было канца. Без перабольшання можна сказаць, што ў той вечар праходзіў яшчэ адзін мінісемінар, на якім сабралася адна дружная, згуртаваная сям'я. І адбылося гэтае свята дзякуючы намаганням старшыні прэзідыума БелТД Арсена Ваніцкага, які ў бытнасць сваю сакратаром ЦК ЛКСМБ стаяў ля вытокаў семінараў творчай моладзі, браў найпершы і самаадданы ўдзел у іх арганізацыі і правядзенні.

Сваімі ўспамінамі пра тыя незабыўныя часіны дзеляцца:

**Арсен ВАНІЦКІ**, старшыня прэзідыума БелТД:

*— Без камсамола нельга ўявіць тагачаснага нашага жыцця. І гэта яшчэ раз пацвердзіла ідэя праводзіць сумесна з творчымі саюзамі семінары творчай моладзі. Мы ўжо на пачатку іх правядзення здолелі праявіць увагу і павагу да таленавітых людзей Беларусі. Ужо тады, у 60 — 80-я гады, былі заўважаны, так бы мовіць, "таленавітыя зярняткі", якія прараслі ў добрыя парасткі. Рады бачыць удзельнікаў усіх семінараў на гэтай хвалюючай вечарыне.*

**Ніна МАРЧАНКА**, саветнік-кансультант Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта:

*— Кожны семінар, у якім я брала ўдзел, — гэта заўсёды было нешта адметнае. Узяць хоць бы свіцязянскі. Ужо ў Мікалаеўшчыне, на радзіме Якуба Коласа, пачаліся незабыўныя сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, і былі з намі знакамітыя Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Макаль. Разам з імі мы ішлі "Дарогамі баявой славы" беларускага народа. А ўжо ў Светлагорску нарадзіўся наш цудоўны семінарскі дэвіз — "Раскоша чалавечых зносін". Менавіта гэтая раскоша ператварала кожны семінар у сапраўднае свята. Столькі было сустрэч, столькі было цудоўных знаёмстваў! Усе яны застануцца ў памяці назаўжды.*

**Аляксандр ДАНІЛАЎ**, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар сацыялагічных навук, прафесар:

*— Я шчаслівы, што некалі ў жыцці быў далучаны да Вялікага Братэрства — Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі. Гэта маё жыццё, гэта мой лёс і ўсё тое, што ёсць са мною сёння. А кожны семінар быў чарговай магчымасцю сустракацца з сябрамі і аднадумцамі.*

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, галоўны рэдактар часопіса "Полымя", паэт:

*— Нам, літаратарам, у сваім, так бы мовіць, вузкім коле, даводзілася сустракацца і ў "Чырвонай змене", і ў "Маладосці", і ў Каралішчавічах. А вось з пачаткам семінараў творчай моладзі наладзілася "стыкоўка" таленавітых прадстаўнікоў усіх муз. Яна дала нам магчымасць для цудоўных кантактаў на ўсё жыццё.*

**Вячаслаў НІКІФАРАЎ**, кінарэжысёр:

*— Менавіта ў тых творчых кантактах нараджалася разуменне таго, што мастацтва было, ёсць і будзе набыткам усёй нацыі. Яно заўсёды будзе асвятляць наш шлях да спазнання гісторыі і культуры народа.*

**Валерый ШЫХАНЦОЎ**

**На здымку:** семінар на турбазе "Нёман".

**Сяброўскія шаржы М.Лісоўскага і Б.Заборава, якія рабіліся падчас семінараў на іх удзельнікаў і гасцей.**


Вольга Іпатава.


Эстэт Крукоўскі.


Барыс Забораў. Аўташарж.


Васіль Жуковіч.


Аляксей Русецкі.


Янка Брыль.


Ніл Гілевіч.


Іван Шамякін.


Георгій Скрыпнічэнка.


Ігар Крэйдзік.



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Анатоль ВЯРЦІНСКІ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ, Аляксей ДУДАРАЎ, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Вольга ІПАТАВА, Міхаіл ПТАШУК, Алесь РАЗАНАЎ, Віктар СКОРАБАГАТАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Надзея БУНЦЭВІЧ, Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК, Алесь ФІЛІПОВІЧ, Валерый ШЫХАНЦОЎ**
Спецкарэспандэнты: **Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ, Зміцер ВІШНЁЎ, Таццяна КОМАНАВА, Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

© "Культура", 1998.

Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3273.

Падпісана ў свет 22.10.98. у 16.30.

Замова 6219.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**